


# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

5 МАЯ 2000г. № 18-19/4050-4051 КОШТ 80 РУБ.


*Славутая салдацкая каша з не менш славутымі франтавымі ста грамамі...*
*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ.*

**Гэты здымак, зроблены ў час святкавання адной з гадавін Перамогі, выклікаў згадку пра верш Пімена Панчанкі "Бульба". Верш вясёлы, усмешлівы. І адначасова — франтавы, напісаны ў векапомным 1945-ым. Зрэшты, "Бульба" — верш не столькі пра яе, адвечную беларускую карміцельку, колькі пра нашу ўсеагульную Перамогу над фашызмам у маі сорак пятага.**

Пімен ПАНЧАНКА

## Бульба

*Так ісці на захад, гэтак перці*
*За эпоху можна толькі раз.*
*Есці захацелася да смерці,*
*Ну, а повар з кухняю заграз.*

*Падцягнулі рамяні з тугою,*
*Леглі адпачыць пад сіняй хвояй,*
*На сухой абочыне шашы.*
*Рай — для ног, цыгарка — для душы...*

*Спрэчка пачалася нечакана:*
*Што смачней з усіх вядомых страў?*
*"Хаш і лобі! — першым крыкнуў Вано, —*
*Я б сем місак зараз увабраў".*

*"Плоў, — сказаў Ахмет. —*
*Калісьці дома..."*
*І пацмокаў смачна языком.*
*А Гурген ускочыў: "Вы знаёмы*
*З ерэванскім сочным шашлыком?"*

*Я тут узгарэўся не на жарты:*
*"Вашых страў я ганіць не хачу:*
*І яны што-кольвек, пэўна, варты,*
*Як хвалілі знаўцы іх — я чуў.*

*Сорам пра найлепшае не ведаць, —*
*Рынуўся я ў наступ на байцоў, —*
*Калі смачна хочаце паснедаць,*
*Закажыце бульбу з селядцом.*

*Печаная бульба — гэта казка,*
*Паскрабеш нажом — і калі ласка.*
*Жоўтая скарынка, як пірог,*
*Будзеш уплятаць яе за трох.*

*Трапіш да кабеціны рахманай —*
*Паспытаеш, друг мой дарагі,*
*Дранікі са свежаю смятанай,*
*Бабку, клёцкі, нават пірагі.*

*З нашай бульбы тысячу, не меней,*
*Смажаць і гатуюць розных страў..."*
*Я ўсхапіўся з месца і з натхненнем*
*Песню ім пра бульбу праспяваў.*

*Бачу: праняла мая прамова,*
*Зараз крыкнуць: "Дзе яна? Гарні!"*
*...Добра, што пад'ехаў ротны повар*
*На рудым запараным кані.*

*1945*



# КОЛА ДЗЁН

**Уся Беларусь святкуе 55-ую гадавіну Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. І хоць з кожным годам усё меней і меней ветэранаў, але памяць пра тое, што перажыў наш народ, які страціў у час вайны кожнага трэцяга, не сыходзіць у небыццё. Подзвіг народа — бессмяротны, як і сам народ. Са Святам!**

## ПАВЕЛІЧЭННЕ ТЫДНЯ

З 1 мая ў нашай краіне, з улікам рэальных рэзерваў бюджэту, павялічылася тарыфная стаўка 1 разраду з 4400 да 5200, а мінімальная зарплата з 2200 да 2600 рублёў. Апрача таго, плануецца захаваць фіксаваныя даплаты да 1—10 разрадаў: яны будуць вагацца ад 4500 да 200 рублёў. Словам, з гэтага месяца мы ўсе пабагацеем. Але ці надоўга...

## ПРАБЛЕМЫ ТЫДНЯ

З павелічэннем "мінімалкі" павялічваюцца і пенсіі. Аднак, у друку з'явілася інфармацыя, што фінансаваць выплату пенсіі становіцца ўсё больш складана. Справа не толькі ў тым, што, паводле ацэнак, стабільнасць выплат могуць гарантаваць запасы Фонду сацыяльнай абароны, прынамсі, на 6 месяцаў. Больш сур'ёзнай падаецца тое, што літаральна з кожным месяцам у краіне нарастае пратэрмінаваная запазычанасць па страхавых адлічэннях, якая цяпер перавышае 5,5 млрд. рублёў. Спраўляюцца з адлічэннямі толькі сталічныя прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы, а вёска наогул практычна не дае ні капейкі ў фонд сацыяльнай абароны. Па падліках спецыялістаў на сённяшні дзень у Беларусі на кожных 160 працуючых грамадзян прыпадае 100 пенсіянераў, а ў 2016 годзе гэтыя суадносіны будуць выглядаць як 100 на 100. І ўсё ж, у адрозненне ад усіх краін СНД, у Беларусі пытанне аб павышэнні пенсійнага ўзросту не разглядаецца. Праблему пенсій плануецца вырашыць іншымі шляхамі — стварэннем і развіццём галіновых і пенсійных фондаў.

## АБРАННЕ ТЫДНЯ

На 56-ай сесіі Камісіі па правах чалавека ААН, якая праходзіць у Жэневе, прадстаўнік нашай краіны ўпершыню быў абраны ў састаў падкамісіі па падрыхтоўцы і абароне правоў чалавека. Ім стаў Станіслаў Агурцоў, які працуе начальнікам упраўлення гуманітарнага супрацоўніцтва беларускага Міністэрства замежных спраў. На брыфінгу ў МЗС прэс-сакратар міністэрства, гаворачы пра факт абрання нашага чалавека, падкрэсліў, што гэта адлюстроўвае сапраўдныя адносіны еўрапейскай і сусветнай супольнасці да палітыкі, якую праводзіць Беларусь у галіне правоў чалавека.

## АДКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ

Напярэдадні Дня Перамогі, у цэнтры нашай сталіцы адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця Рэспубліканскай дошкі Гонару. З гэтага часу тут будуць знаходзіцца адлітыя ў метале назвы лепшых прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў Беларусі. Пакуль што гэта 19 працоўных калектываў краіны і адзін раён Мінска. Успамінаючы пра людскія адносіны да дошак Гонару, што былі пры Савецкім Саюзе, думаем: "Няўжо яшчэ ёсць сёння людзі, якія сур'ёзна ўспрымаюць дошкі Гонару?" Відаць ёсць, бо, як сказаў паэт, "калі запальваюць зоркі, значыць гэта некаму патрэбна..."

## СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Паводле Міністэрства статыстыкі і аналізу, за мінулы сакавік сярэдняя зарплата па краіне павелічылася на 10,6 працэнта і склала 45549 рублёў. У прыватнасці, за сакавік сярэдняя зарплата работнікаў сувязі павялічылася на 10,2 працэнта (па галіне яна дасягнула 50803 руб.), работнікаў калгасаў — на 10,3 працэнта (21317 руб.), аўтатранспарту — на 10,9 (44,587 руб.), прамысловасці — на 11,5 (58167 руб.), авіяцыйнага транспарту — на 13 (67848 руб.), лясной гаспадаркі — на 13,7 (38407 руб.), будаўніцтва — на 13,9 (54212 руб.), гандлю і грамадскага харчавання — на 14,2 (38223 руб.), чыгункі — на 15,4 (52015 руб.), саўгасаў — на 16 працэнтаў (28422 руб.), банкаў — на 5,6 (84917 руб.). Рост заробкаў бюджэтнікаў аказаўся меншым. Па жыллёва-камунальнай гаспадарцы ён склаў 15,8 працэнта (47886 руб.), па навуцы і навуковым абслугоўванні — 9,7 працэнта (55843 руб.), мастацтве — 9,6 працэнта (31546 руб.), ахове здароўя — 9,2 (35546 руб.), фізічнай культуры і спорце — 4,5 (35897 руб.), адукацыі — 4,1 (35282 руб.), культуры — 2,9 (30355 руб.) і па сацыяльным забеспячэнні — 1,2 працэнта (22282 руб.). Цяпер мяркуйце самі каму ў Беларусі жыць добра...

## ТАРЫФЫ ТЫДНЯ

У адпаведнасці з пастановамі Міністэрства эканомікі ў маі павышаюцца камунальныя тарыфы. Стаўка кватэрнай платы цяпер складае 3,74 рубля за квадратны метр агульнай плошчы. Тарыфы на халоднае і гарачае водазабеспячэнне і каналізацыю павышаны на 11,7 працэнта. Павялічыліся тарыфы і на паслугі міжнароднай тэлефоннай і тэлеграфнай сувязі на 20 працэнтаў. І чуеш ужо звыклае: "І калі ўжо гэта ўсё скончыцца!".

## ТРЫВОГА ТЫДНЯ

Чалавечае жыццё... Яно доўгае і кароткае. Не бясконцае. І ў кожнага чалавека жыццё мае свой пачатак і свой канец. Але колькі яшчэ недарэчных смерцяў! Толькі пазалетась пры правядзенні палявых работ у краіне адбылася 54, а летась — 44 цяжкія няшчасныя выпадкі, з якіх адпаведна 18 і 17 скончыліся смерцю. Ужо ў гэтым годзе ў сельскай гаспадарцы зарэгістравана 12 выпадкаў вытворчага траўматызму са смяротным і 33 выпадкі — з цяжкім зыходам. Лічбы сумныя. І яшчэ. Трывожная сітуацыя склалася сёлета і на фермах, дзе за тры месяцы загінулі 6 і сталі інвалідамі 14 жывёлаводаў. І на пытанне хто ў гэтых смерцях вінаваты — у кожнага з нас свой адказ...

## ДАЛІКАТЭС ТЫДНЯ

Мяркуючы па Камароўскім рынку, у лясах нашай краіны з'явіліся вясновыя грыбы, смаржкі. Праўда, каштуюць яны вельмі дорага. Трохлітровае вядзерца — 800 рублёў. Так што, хто любіць грыбы, але не мае часу іх збіраць, можа паехаць на Камароўку, але ўсё ж такі лепей самому пахадзіць па вясновым лесе ў пошуках далікатэсу...

*1945—2000*

# Мірны цягнік вярнуўся з Берліна

У мінулую сераду закончылася акцыя пад назовам "Цягнік міру і згоды". 26 красавіка з Беларускага вакзала Масквы ён адправіўся па маршруце Смаленск—Мінск—Брэст—Берлін. Пасажырамі незвычайнага цягніка сталі ветэраны Вялікай Айчыннай, майстры мастацтваў, дэлегаты гарадоў-герояў. Акцыя праводзілася ў адпаведнасці з расійскай праграмай святкавання 55-годдзя Перамогі. Арганізатар — Акадэмія культуры Расіі на чале з яе прэзідэнтам народнай артысткай СССР Людмілай Зыкінай.

27 красавіка цягнік міру і згоды спыніўся ў Мінску. На прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў Нацыянальным прэс-цэнтры, Зыкіна перш-наперш адзначыла, што акцыя, "закліканая сродкамі культуры ўшанаваць веліч подзвігу Салдата-вызваліцеля, выхаваць на яго прыкладзе дастойных нашчадкаў Перамогі", была ажыццёўлена пры непасрэдным удзеле Віктара Чарнамырдзіна, які свае палітычна-бізнесовыя клопаты не без поспеху сумяшчае з абавязкамі старшыні Апякунскай рады Акадэміі культуры Расіі.



У час прэс-канферэнцыі Чарнамырдзін, адчуваючы ўскладненую на яго адказнасць, выказаў глыбокую ўдзячнасць беларускім ветэранам, заўважыўшы, што ў апошняй вайне загінула 30 мільёнаў. Беларусь за гады Вялікай Айчыннай страціла кожнага трэцяга.

І Зыкіна, і Чарнамырдзін гаварылі пра тое, што акцыя "Цягнік міру і згоды" атрымала ўсебаковую падтрымку прэзідэнтаў абедзвюх братніх славянскіх дзяржаў...

Мірны цягнік у той жа дзень накіраваўся ў Брэст, а потым — у Берлін, дзе і адбыўся велічны святочны канцэрт Дружбы, у якім бралі ўдзел музычны калектыў Аляксандрава, казачы ансамбль, хор імя Пятніцкага...

Свет у чарговы раз пераканаўся, што народная дыпламатыя славянскіх народаў — рэч канкрэтная. А мір і згода — якраз тое, чаго нам зараз вельмі не хапае. Словам, мы мірныя людзі і наш мірны цягнік заўжды напагатове.

**НАШ КАР.**

*На здымку: цягнік міру і згоды ў Мінску.*

## *Той май*

***Я помню ў сорак пятым Май,***
***Багаты радасцю і горам...***
***Грымеў салютамі***
***наш край,***
***Ракеты — узляталі ўгору.***

***Салютным водбліскам агнёў***
***Яны згаралі незваротна.***
***Гарматы водгуллем баёў***
***Ім адгукаліся грымотна.***

***Вярталіся бацькі, браты***
***(Не ўсе —***
***галовы паскладалі).***
***Іх дома доўгія гады***
***З надзеяю ў сям'і чакалі...***

***Калі б не той далёкі Май,***
***Што ў край вярнуўся***
***з Перамогай,***
***Бяда паўзла б за небакрай***
***Гаротнай, змрочнаю дарогай.***

***Не чулі б мы,***
***як гром грыміць,***
***Як лічаць вёсны нам зязюлі, —***
***А чулі б, як душа баліць,***
***Як плачуць сёстры***
***і матулі...***

***Прымусілі б рабамі жыць,***
***Каб паднявольным***
***гнуцца нізка,***
***І мову матчыну забыць,***
***Якую помнілі з калыскі...***

***Калі б той Май***
***не змог паўстаць,***
***Не жыць бы нам сягоння ў Маі***
***І Перамогу не ўслаўляць,***
***Цану якой мы добра знаем.***

**Юрась СВІРКА**

## *Апошні ўдар*

*Усё меней і меней застаецца тых, хто 55 гадоў таму, ацалеўшы ў агні вайны, упершыню святкаваў Перамогу. Заўчасна адышоў ад нас і Сяргей Міхальчук, франтавік, рэдактар, добры сябар. Яму прысвечаны гэтыя верш.*

***Як на вайне.***
***Апошні ўдар.***
***У сэрца самае.***
***Смяротны...***
***Гарчэй за той гарматны гар***
***дымок над свечкай.***
***Незваротны.***
***Гарчэй для нас.***
***Жывых.***
***Табе ж***
***лягчэй.***
***Ні слоты.***
***Ні спякоты.***
***Бо ты сягнуў за той рубеж,***
***дзе ўсе мізэрнеюць турботы.***
***Дзе іншай сцежкі не знайсці.***
***Дзе ўсё адно —***
***ці цот,***
***ці рэшка.***

***На вуснах,***
***як і пры жыцці,***
***святлівая блукае ўсмешка.***

***Як быццам кажа:***
***— Ах, браткі!***
***Не трэба.***
***Не вярэдзьце раны.***
***Дзён рукапісныя радкі***
***дарэшты адрэдагаваны.***

***Пакуты.***
***Радасці.***
***Ды іх***
***не перапішаш,***
***не дапішаш...***

***Маўчу.***
***І чуйна ловіць слых,***
***як аплывае свечка ў цішы.***

***Сям'я ў жальбе.***
***Сябры ў журбе.***
***І гэта кропка ўжо.***
***Не коска.***
***А на Капыльшчыне***
***цябе,***
***нібы з вайны,***
***чакае вёска.***

**Артур ВОЛЬСКІ**

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

"Айчынная школа на мяжы стагоддзяў: творчыя здабыткі ў навучанні малодшых школьнікаў і выхаванне дзяцей на лепшых узорах беларускай літаратуры", — так называўся "круглы стол", які правялі сумесна Саюз пісьменнікаў і рэдкалегія часопіса "Пачатковая школа", якая нядаўна адзначыла выхад сотага нумара свайго выдання.

У абмеркаванні пытанняў "круглага стала", які вялі галоўны рэдактар часопіса "Пачатковая школа" Наталля Ваніна і намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч, прынялі ўдзел педагогі, навукоўцы, літаратары. Сярод іх былі намеснік міністра адукацыі А. Слука, намеснік старшыні Дзяржкамдруку Г. Вальчуга, прафесар Т. Савельева, галоўны інспектар Упраўлення агульнай і сярэдняй адукацыі Міністэрства асветы Л. Кузняцова, начальнік гэтага ўпраўлення М. Фяськоў, пісьменнікі В. Іпатава, А. Вольскі, М. Яфімава, галоўныя рэдактары педагагічных выданняў Н. Калеснік, А. Сачанка, М. Шаўыркін, А. Куліцкі.

●

Пад старшынствам Вольгі Іпатавай адбылося пасяджэнне камісіі па сувязях з замежнымі літаратарамі. Абмяркоўваліся пытанні, звязаныя з правядзеннем літэкспрэса "Еўропа-2000". У выступленнях намесніка старшыні камісіі Сяргея Законнікава, а таксама Валянціны Коўтун, Уладзіміра Мархеля, Міхася Кенькі, Валянціны Куляшовай, Леаніда Пранчака былі выказаны прапановы па арганізацыі сустрэчы на Беларусі пісьменнікаў з 23 краін Еўропы. У прыватнасці, вырашана звярнуцца да студэнтаў Лінгвістычнага ўніверсітэта, каб тыя дапамаглі зрабіць пераклады твораў беларускіх аўтараў на англійскую мову з тым, каб потым была магчымасць выдаць зборнік нашых літаратараў. Камісія рэкамендавала Саюзу пісьменнікаў звярнуцца да нашых паэтаў, празаікаў перадаць тэксты для перакладаў памерам 2-3 старонкі машынапісу.

●

Першая паездка акцыі "Радаводныя вытокі" адбылася ў старажытным Полацку. У складзе пісьменніцкай групы, якая выязджала да землякоў, былі Навум Гальпяровіч і Сяргей Панізнік. Разам з імі ўдзел у сустрэчах на полацкай зямлі прыняў кампазітар Уладзімір Буднік. Адбылася гутарка ў гарадскім выканаўчым камітэце, творчыя справаздачы на вытворчым аб'яднанні "Шкловалакно" і ў сельскагаспадарчым тэхнікуме. Была дасягнута дамоўленасць аб правядзенні ў Полацку літаратурных чытанняў з удзелам пісьменнікаў-землякоў.

**Н. К.**

**У рэдакцыю газеты "Літаратура і Мастацтва"**

*Сардэчна дзякую ўсім, хто павіншаваў мяне ў дзень майго 60-годдзя.*

**Віктар КАЗЬКО**

ВЕЧАРЫНЫ

# Віталі Віктара Казько

Днямі ў Вялікай зале Саюза беларускіх пісьменнікаў адбылася творчая вечарына, прысвечаная 60-годдзю вядомага празаіка, лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола і Дзяржаўнай прэміі Беларусі пісьменніка Віктара Казько. Юбіляра віталі народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, вядомы рэжысёр, сакратар Саюза кінематаграфістаў Ігар Волчак, Генадзь Бураўкін, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Сяргей Законнікаў, празаікі Анатоль Бароўскі і Анатоль Кудравец, калегі, землякі, сябры...

Як падкрэслілі выступоўцы, наша проза больш складаная, значная, цікавая, чым мы нават іншы раз можам сабе ўявіць. Яна належным чынам зінтавана з агульнаеўрапейскай плынню сусветнага літаратурнага працэсу. І годнае месца займае тут Віктар Казько, пісьменнік са сваім, непадобным на іншыя, голасам, са сваёй тэмай і настроем, уласным светаразуменнем і асабістым светаадчуваннем. Гэта вельмі шчыры пісьменнік-рэаліст, сціплы чалавек, які не выступаў з гучнымі прамовамі і заклікамі, але ніколі не здраджваў самому сабе, прынцыпам дэмакратызму і чалавечнасці ў чалавеку, любові да зямлі, дзе нарадзіўся, павазе да людзей — сяброў, сваякоў, родных, блізкіх і нават ворагаў. Вайна апаліла дзяцінства празаіка, паклала свой адбітак на творчы і чалавечы лёс, пакінула невымоўны боль і горыч страт, але не пахіснула веру ў неабходнасць жыць па законах чалавечнасці. Проза Віктара Казько чытаецца нялёгка, патрабуе кандэнсацыі думкі, энергіі, страсці, змагаецца супраць азвярэння на нашай зямлі, прымушае разважаць, чаго мы прыходзім на гэты свет, што шукаем, што знаходзім, з чым сыходзім адсюль. Гэта рэквіем па нашай культуры, па душы народа, па малой радзіме пісьменніка — Палессі, якое жывіла і жывіць яго творчасць сваімі легендамі, казкамі, міфамі, мудрасцю, спагадай і ласкай. Як адзначылі сябры і калегі, калі б не было Віктара Казько, яго шчырай і праўдзівай, у нейкай ступені, можа, нават жорсткай прозы, на зямлі было б не так цікава і цёпла.

Падчас вечарыны дэманстраваліся ўрыўкі з кінафільмаў "Сведка", "Сад", "Паводка", "Дрывасек, дзядок і тутэйшыя", пастаўленых па сцэнарыях Віктара Казько.

**Марыя РУДОВІЧ**

КАНЦЭРТЫ

# Вясна з Анісімавым

Галоўнаму дырыжору Сімфанічнага аркестра Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Аляксандру Анісімаву, якога апошнім часам заспець у Мінску — рэдкая ўдача, злыя жартаўнікі прарочаць лёс знакамітага калегі Яўгена Святланава, урэшце адлучанага ад роднага аркестра з-за празмернай захопленасці асабістымі замежнымі праектамі ва ўрон творчаму прэстыжу "свайго" калектыву, інтарэсам музыкантаў.

Аднак выдае на тое, што жартаўнікам наканавана заставацца пры сваіх прароцтвах. Бо маэстра Анісімаў, спраўны кіраўнік-арганізатар з уласцівым дырыжору пачуццём часу, меры, такту, рытму і эстэтычным густам, заўсёды ў належны момант з'яўляецца перад мінскай публікай і — робіць свята! І для яе, і для музыкантаў; для горада і для тэатра.

"Сімфонія вясны" прагучала нядаўна пад кіраўніцтвам А. Анісімава ў перапоўненай зале і мела не па-вясноваму гарачы прыём. Складалася тая сімфонія з самых розных музычных тэм, якія належаць многім аўтарам: гэта быў гала-канцэрт аркестра з удзелам хору тэатра (галоўны хормайстар Ніна Ламановіч) ды зухаватай "банды" — так на музыканцкім жаргоне клічуць сцэнічны духавы аркестр, які без малога год таму быў створаны з лепшых выпускнікоў і студэнтаў Беларускай акадэміі музыкі і якім кіруе спрактыкаваны музыкант Якаў Гелер.

Праграму запісвала БТ, таму да каментарыя маэстра Анісімава далучалася і тэлевядучая С. Бароўская. Хаця тое, што адбывалася на сцэне (аркестравая яма ўвесь вечар пуставала і нават была далікатна накрытая нейкімі дэкараванымі шчытамі), асаблівых каментарыяў і не вымагала: самі за сябе гаварылі папулярныя фрагменты з оперных твораў, балетаў, музыка да кінафільмаў.

Дынамічна і вобразна раскрылася ў сімфанічна-харавым гучанні сцэна балю з "Пікавай дамы" П. Чайкоўскага. Авацыю публікі выклікаў самы "шлягерны" хор з "Набука" Д. Вердзі. А знакаміты трыумфальны марш з "Аіды"! Яго ўпрыгожыў выбітны дуэт маладых трубачоў Я. Лятэ ды Д. Макарэвіча, сольныя перыяды змяняліся перазовамі, унісонам "залатых" інструментальных галасоў.

Дзівосную сімфанічную повязь утваралі знаёмыя матывы Ж. Бізэ, Д. Расіні, Р. Вагнера, П. Масканьі, С. Пракоф'ева, Р. Гліера, І. Стравінскага... Аркестравая моц (на сцэне, як заўважыў А. Анісімаў, было 120 музыкантаў) уражліва адценьвала выканальніцкія індывідуальнасці салістаў, чые імёны ў звычайных тэатральных праграмках замыкаюць спіс удзельнікаў опернага ці балетнага спектакля.

Мы пачулі прыгожы пранікнёны гук першай скрыпкі — Г. Мацкевіча — у рамансе Д. Шастаковіча да фільма "Авадзень", а таксама ў дуэце з альтовай флейтай — Л. Ласоцкай — пяшчотнай тэме адажыо з балета Я. Глебава "Маленькі прынц". Нас атуліла хваля сентыментальных перажыванняў, калі маэстра, пакінуўшы дырыжорскі подыум, крочыў углыб аркестра, сеў за фартэпіяна і, нібы ў задуменнай імправізацыі, зайграў немудрагелістую мелодыю раманса са свірыдаўскай "Мяцеліцы": неўпрыкмет далучылася скрыпка салісткі Ю. Стэфановіч, потым — віяланчэль Т. Мельнікавай, пранізлівы покліч трубы Д. Пекуна і спакваля — увесь аркестр... У агністым "Танцы з шаблямі" з балета А. Хачатурана "Гаянэ" слых цешылі віртуозныя іскрынкі ксілафона — І. Аўдзееў, аксамітны голас саксафона — І. Пракопчык...

Неўміручая музыка уверцюры да оперы М. Глінкі "Руслан і Людміла" сталася сапраўдным апафеозам "Сімфоніі вясны". Адбіўшы далоні, нагукаўшыся "брава!", усмешлівыя людзі няспешна пакідалі тэатр на Траецкай гары, вакол якога, у зазеляненых шатах старых дрэў, таксама шчыравала сімфонія вясны...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

ФЕСТЫВАЛІ

# Нясвіж!.. А "Маладзечна"?

## "МУЗЫ НЯСВІЖА" ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ ЗБЯРУЦЦА Ў НАШАЙ НЕКАРАНАВАНАЙ СТАРАЖЫТНАЙ СТАЛІЦЫ

***Гэты традыцыйны фестываль камернай музыкі, які ладкуецца Дзяржаўным канцэртным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам маэстра М. Фінберга пры падтрымцы нясвіжскіх уладаў, пройдзе 12—13 траўня. Канцэртныя праграмы, складзеныя пры ўдзеле даследчыцы музычнай даўніны В. Дадзіёмавай, "правядуць" публіку па гістарычных культурных асяродках Беларусі, сярод якіх адметнае месца займае і сам Нясвіж. Дарэчы, сёлетні фестываль можна лічыць цудоўным падарункам да 250-годдзя Нясвіжскай музычнай школы.***



Складаныя фінансавыя варункі вымушаюць арганізатараў абмежаваць спатканне "музаў Нясвіжа" двума днямі. Ды ўражанняў мае быць як ад цэлага тыдня! Выбітны рэпертуар прагучыць у выкананні хору Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам шаноўнага В. Роўды, Акадэмічнай харавой капэлы імя Р. Шырмы (мастацкі кіраўнік Л. Яфімава), а таксама мастацкіх калектываў, што працуюць у складзе Дзяржаўнага канцэртнага. Гэта Камерны аркестр (кіраўнік В. Сарока), ансамбль трубачоў "Інтрада" (кіраўнік М. Волкаў), Актэт драўляных духавых інструментаў (кіраўнік Б. Нічкоў), ансамбль флейтыстаў "Сірынкс" (кіраўнік Н. Аўраменка). Удзельнікі навуковай канферэнцыі абмяркуюць больш як 20 дакладаў. А пра фестывальныя сюрпрызы лепей загадзя не казаць — каб не сурочыць...

Тым часам прыхільнікі Дзяржаўнага канцэртнага аркестра чакаюць яшчэ адзін яго фірмовы фэст — Нацыянальнае свята беларускай паэзіі і песні, ці ў прастамоўі — "Маладзечна". Пра тое, з якімі праблемамі даводзіцца сутыкацца яго ініцыятару і мастацкаму кіраўніку М. Фінбергу, гаворка можа быць асобная. Праблемы і паўплывалі на перыядычнасць, і вымусілі да пошуку альтэрнатыўнага месца правядзення фестывалю. Маэстра ўжо меркаваў, што свята паэзіі і песні будзе з году ў год вандраваць па ўтульных беларускіх мястэчках, улучаючы ў кола жывога мастацкага слова і музыкі жыхароў глыбінкі. Але сёлета, відаць, давядзецца разлічваць толькі на аўдыторыю сталічнай канцэртнай залы ды БТ.

Так званае "Маладзечна", як ужо аднойчы было, аркестру рэкамендавана правесці ў Мінску восенню. Планы, вядома, — рэч зменлівая. І ўсё ж М. Фінберг прапануе сем фестывальных канцэртных праграм: будзе ўшанавана памяць такіх карыфеяў беларускага песеннага мастацтва, як У. Алоўнікаў, Ю. Семяняка, В. Вуячыч, прадстаўлены новыя адметныя імёны і зусім юныя салісты — удзельнікі нядаўняга фэсту "Спяваем з аркестрам!"...

"Я прыйшоў да ідэі стварэння анталогіі беларускай паэзіі ў беларускай эстраднай песні", — разважае маэстра пра магчымае аблічча колішняй маладзечанскай імпрэзы. І дадае, што адпаведныя канцэртныя праграмы прадставяць узоры творчасці ад 18 да 20 ст., а паралельна з іх жывым выкананнем будзе рыхтавацца запіс у студыі.

Правядзенне фестываляў не замінае іншым новым праектам. Адзін з іх музыканты прысвячаюць 9 Мая: падчас урачыстасцяў у гонар 55-годдзя Перамогі адбудзецца шматгадзіннае выступленне Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі і яго салістаў на Кастрычніцкай плошчы Мінска. Горад пачуе песні ваенных гадоў...

**С. ВЕТКА**

*Фота Віт. АМІНАВА*

АБСЯГІ

*БРЭСТЧЫНА...*

## Дзве выставы...

Розныя стылёвыя напрамкі сучаснага выяўленчага мастацтва ўласцівыя і творчасці берасцейскіх мастакоў. Пра гэта засведчылі і дзве выставы, што адкрыліся амаль адначасова ў абласным цэнтры. Аўтар адной з іх — Анатоль Жалудко. Працуе ён у рэалістычнай манеры і адлюстроўвае хараство роднай прыроды, куткі маленства і юнацтва, з любоўю перадае характары блізкіх людзей. Інакшы, нетрадыцыйны стыль ва Уладзіслава Куфко, мастака ўжо шырокавядомага. Ён схільны да філасофскіх абагульненняў і шматпланавасці ў паказе жыцця. У ягонай творчасці дамінуе фігуратыўная карціна. Сваю выставу Уладзіслаў прысвяціў памяці бацькі — выдатнага беларускага жывапісца і мужнага чалавека, вязня фашысцкага канцлагера і сталінскага ГУЛАГа Эдуарда Станіслававіча Куфко. Абедзве выставы знаходзяць свайго ўдзячнага гледача.

## З братняй крыніцы

Дзевятая кніжка, нядаўна выпушчаная ў серыі "Берасцейскае вогнішча", адметная найперш тым, што яна — на ўкраінскай мове. Аўтар Антон Цвыд нарадзіўся на Валыні, больш як дзесяць год жыве ў Брэсце. Ягоная цікавасць да беларускае літаратуры перарасла ў захапленне, а асабістае знаёмства з некаторымі нашымі паэтамі — у сяброўства. Таму ў зборнік "Сторінки хвиль" ("Старонкі хваляў") аўтар уключыў не толькі ўласную лірыку, а і вершы-пераклады — з Гальяша Леўчыка і Уладзіміра Жылкі, Язэпа Пушчы і Анатоля Іверса, Сяргея Грахоўскага і Аляксея Русецкага... Усяго ў кніжцы прадстаўлены 15 беларускіх паэтаў, сярод якіх і берасцейцы: Міхась Рудкоўскі, Яўгенія Янішчыц, Мікола Пракаповіч і інш. Як арыгінальныя вершы, так і пераклады пазначаны добрым мастацкім густам і майстэрствам аўтара.

**Сымон АКСЕНІН**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Купалле на "Славянскім базары"

Шаснаццаць буйных культурных праектаў будуць рэалізаваны сёлета ў рамках міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". Аднак галоўнымі застаюцца выступленні майстроў мастацтваў, зорак эстрады, конкурс маладых выканаўцаў. У летнім амфітэатры Расія прадставіць канцэрт зорак балета, Украіна — майстроў оперы, Беларусь — фальклорнае свята "У ноч на Яна Купалу" (фестываль адбудзецца раней звычайнага, 3—11 ліпеня). У гэтыя ж дні пройдуць Шагалаўскі і Рэпінскі пленэры, музычныя мерапрыемствы, прысвечаныя І. Салярцінскаму, тэатральныя сустрэчы з удзелам С. Юрскага, М. Нявлавай, Л. Палішчук, М. Карачанцава.

Цэны на квіткі, як абяцаюць арганізатары, будуць ніжэй леташніх — ад 500 рублёў да 12 тысяч.

**Святлана ГУК**

## Не мялее рэчышча "Дзвіны"

Пабачыў свет чарговы, трэці выпуск літаратурнага альманаха "Дзвіна" ("Віцебшчына літаратурная"). Яго выхад прымеркаваны да юбілею абласной пісьменніцкай суполкі, якая 3 чэрвеня адзначыць 20-годдзе. Выданне аб'яднала 56 аўтараў з Віцебска, Полацка, Глыбокага, Оршы, Паставаў, Лепеля, Верхнядзвінска... Апроч традыцыйных раздзелаў "паэзія", "проза", "гумар", у кнігу ўвайшлі новыя: "літаратурнае жыццё ў дакументах", "памяць". У апошнім змешчаны кароткія жыццяпісы і творы аўтараў, якіх ужо няма з намі.

Наклад кнігі — 600 асобнікаў. Прадмову напісаў Алег Салтук. Чарговы альманах засведчыў: і таленту і жадання выпускаць цікавыя і карысныя кнігі пры ўсіх фінансавых цяжкасцях на Віцебшчыне не паменела. Выпусцілі альманах упраўленне культуры аблвыканкама і абласное аддзяленне СП. На чарзе новая задума — даведнік "Пісьменнікі Віцебшчыны", выданне якога таксама мяркуецца падрыхтаваць да юбілейнай даты.

**Франц СІЎКО**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## "Памяць сэрца"

Гераічная тэма — адна з вядучых у беларускім выяўленчым мастацтве. Майстры пэндзля і разца Гомельшчыны таксама ўнеслі значны ўклад у яе распрацоўку. Многія іх творы знаходзяцца ў розных музеях, у тым ліку і ў Нацыянальным мастацкім. А манументальныя работы ўстаноўлены ў гарадах і вёсках вобласці. І сёння гэтая тэма хвалюе мясцовых жывапісцаў, графікаў і скульптараў. Сведчанне таму — выстава "Памяць сэрца", прысвечаная 55-годдзю вялікай Перамогі. У экспазіцыі — творы, якія расказваюць пра франтавыя дарогі, партызанскі рух, абарону і вызваленне Гомеля. Экспануюцца работы М. Казакевіча, Р. Ландарскага, А. Отчыка, У. Кароткага, В. Ягорава... Лепшыя творы папоўняць фонды абласнога краязнаўчага музея.

## Будуецца храм

Вялікая колькасць нашых суайчыннікаў удзельнічала ў ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Многія сталі яе ахвярамі. У памяць аб загінуўшых у Гомелі, побач з Курганом Славы, пачынаецца ўзвядзенне храма-помніка. На асвячэнні месца, прызначанага пад будоўлю, прысутнічалі святары, прадстаўнікі гарадскіх улад, вайскоўцы, міністр па надзвычайных сітуацыях Беларусі В. Астахаў.

## Песня аб Добрушы

Рэдактар раённай газеты "Добрушскі край" Мікола Ждановіч — аўтар паэтычных зборнікаў. У сваіх вершах "Песня аб Добрушы", "Добрушскі вальс" ён ушаноўвае родныя мясціны. Плённа супрацоўнічае з кампазітарам Рыгорам Козыравым. Днямі ў мясцовым Палацы культуры адбылася прэзентацыя іх сумеснага музычнага альбома "Калі хачу ўспомніць Вас..."

## Тэатр лялек у вёсцы

Унікальная з'ява ў мастацтве Гомельшчыны — у вёсцы Ровенская Слабада Рэчыцкага раёна дзейнічае дзіцячы тэатр лялек. Стварыў яго рэжысёр і акцёр Уладзімір Тамашук, які раней працаваў на Курылах, але вярнуўся на радзіму. Ідэю падтрымалі кіраўнікі сельскага Савета, мясцовага калгаса, школы. Трупу Тамашук набраў са здольных юнакоў і дзяўчат. У рэпертуары лялечнага тэатра спектаклі паводле вядомых народных казак. Днямі юныя артысты далі святочнае прадстаўленне.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*МІНШЧЫНА...*

## Віншаванні — вучылішчу

У чэрвені Мінскаму вучылішчу мастацтваў — 25 год. Творчыя калектывы Міншчыны распачалі віншаванні ў адрас адной са сваіх базавых навучальных устаноў. Днямі ў вучылішчы прайшоў канцэрт-справаздача дзіцячых музычных школ Маладзечна. У праграме прынялі ўдзел як дзіцячыя, так і выкладчыцкія калектывы.

**Ґаліна НОВІКАВА**



ЧАСАПІС

## Кампазітар едзе ў Прагу



**У Празе адбыўся Міжнародны конкурс кампазітараў — аўтараў харавой музыкі "Jihlava-2000". Кампетэнтнае журы, у складзе якога былі і харавыя дырыжоры, і кампазітар, разглядзела 176 партытур, прадстаўленых творцамі з Грэцыі, Польшчы, ЗША, Расіі, Чэхіі, Мексікі, Латвіі, Канады ды інш. па трох намінацыях: для вялікага змяшанага хору, для камернага харавога складу і для дзіцячага калектыву.**

**Удзельнічаў у конкурсе і кампазітар з Беларусі — Яўген Паплаўскі, які даслаў у Прагу свой новы твор: харавы цыкл "Пагода ўжо позняе восені" для камернага хору і ўдарных на тэксты Леапольда Стафа.**

**Нядаўна сп. Паплаўскі атрымаў афіцыйнае паведамленне з Чэхіі: яго твор адзначаны журы конкурсу 2-й прэміяй у намінацыі для камернага харавога складу. 1-ая прэмія ў амерыканскага калегі, 3-я — у канадскага. Беларускага кампазітара запрашаюць на 43-ці Міжнародны фестываль харавой музыкі, які пройдзе ў Празе ўлетку. Харавы цыкл Я. Паплаўскага будзе выкананы падчас гэтага свята. Плануецца таксама выданне і распаўсюджванне партытуры ў Чэхіі.**

**С. Б.**

*Фота Віт. АМІНАВА*

## Несці слова да чытача

**У бібліятэцы "Юнацтва" на мінулым тыдні адбылася сустрэча з вядомымі беларускімі паэтамі Сяргеем Законнікавым і Алесем Пісьмянковым, галоўнымі рэдактарамі "Полымя" і "ЛіМа". Вечарына праходзіла напярэдадні сумных угодкаў чарнобыльскай трагедыі. Уступнае слова ўзялі дырэктар бібліятэкі Валянціна Коршыкава і вядучы бібліятэкар Наталля Стрыгельская.**

**Размову з чытачамі паэты пачалі з расповеду аб сваёй творчай і грамадскай дзейнасці, аб актуальных праблемах нашага жыцця. Сяргея Законнікава і Алеся Пісьмянкова аб'ядноўвае агульная мэта: несці беларускае слова да чытачоў, уздымаць беларускую літаратуру на еўрапейскі ўзровень.**

**Цікава было паслухаць расповеды паэтаў пра працу творчых калектываў "Полымя" і "ЛіМа", пра незвычайныя выпадкі са свайго жыцця, успаміны аб падарожжах і сустрэчах, а напрыканцы вечарыны творцы чыталі свае вершы, адказвалі на пытанні слухачоў. Ва ўтульную залу бібліятэкі прыйшлі шматлікія прыхільнікі таленту паэтаў, навучэнцы Мінскага педкаледжа N 1, вучні школ Фрунзенскага раёна, настаўнікі.**

**Сустрэча прайшла ў шчырай, даверлівай атмасферы. І хацелася спадзявацца, што, дзякуючы такім адданым сваёй працы творчым людзям, нашы перыядычныя выданні будуць выходзіць з друку рэгулярна, стануць яшчэ больш цікавымі для чытачоў.**

**ДРАБЕНЯ Наталля, ЖУРЫК Таццяна, навучэнкі Мінскага педкаледжа N 1**

ДРУК

# У нашых немцаў справы неблагія...

"Як справы?" — пытаемся мы адзін у аднаго пры сустрэчы. У адказ апошнім часам усё часцей чуваць нешта сумнае... І вось з'явілася падстава для іншага, аптымістычнага адказу на гэтае быццам бы фармальнае пытанне. Напрыканцы мінулага года з друку выйшаў другі нумар альманаха, што выдае Беларускае таварыства немцаў "Відергебурт" ("Адраджэнне"). Выданне мае назву "Wie geht's?", што ў перакладзе з нямецкай і азначае "Як справы?". Першы нумар альманаха выйшаў у 1998-м годзе на нямецкай мове, таму і застаўся недасяжным для большасці беларускіх чытачоў. І вось — нумар другі.

Як вядома, у савецкія часы многія з этнічных немцаў былі рэпрэсаваны толькі з прычыны нацыянальнага паходжання. Ва ўмовах жорсткага ўціску людзі гублялі сваю мову, культуру, звычаі, становячыся часткай безаблічнага "савецкага народа". Але як толькі таталітарная дзяржава спыніла сваё існаванне, пачалося адраджэнне нацыянальных культур, у тым ліку нямецкай. Таварыства "Відэргебурт" створана ў 1990-ым годзе, яго сімвалам стала птушка Фенікс, што паўстае з попелу. Цяпер суполкі таварыства існуюць у Гомелі, Віцебску, Бабруйску і Мінску. Пры мінскім таварыстве (яго ўзначальвае Таццяна Горбач) працуюць курсы нямецкай мовы, нядзельная школа, праводзяцца шматлікія культурніцкія імпрэзы — сустрэчы, канцэрты, вечарыны.

У мінулым годзе "Відергебурт" сумесна з Дзяржкамітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей РБ і Домам дружбы правялі першую навукова-мастацкую сустрэчу "беларуска-нямецкія культурныя ўзаемасувязі", прысвечаную адразу двум юбілеям — 250-годдзю Гётэ і 600-годдзю Гутэнберга. Матэрыялы гэтай сустрэчы складаюць пераважную частку другога нумара альманаха.

Кароткі агляд гісторыі беларуска-нямецкіх культурных кантактаў ад эпохі Скарыны да нашых дзён робіць Адам Мальдзіс. Гісторыкі дагэтуль спрачаюцца, ці сустракаўся Скарына з Марцінам Лютэрам асабіста. Адно несумненна: з працаю нямецкіх друкароў наш асветнік быў добра знаёмы. У часы Рэфармацыі па запрашэнні Мікалая Радзівіла (Чорнага) і іншых магнатаў-пратэстантаў прыязджалі ў Вялікае княства Літоўскае нямецкія лекары, майстры, музыканты. Другі ўздым культурніцкіх і грамадскіх кантактаў прыпадае на эпоху Асветніцтва, пры жыцці Гётэ. Менавіта ў гэты час была створана першая опера Антонія Радзівіла "Фаўст", лібрэта да якой напісаў сам Гётэ, хаця адмовіў у гэтым куды болей вядомым кампазітарам. Пазней, калі ВКЛ перастала існаваць, большая яго частка была далучана да Расійскай імперыі, дзе, па іроніі лёсу, кіравала нямецкая прынцэса Сафія, што стала імператрыцай Кацярынай ІІ.

Ці мог Гётэ як чалавек высокаадукаваны заставацца ўбаку ад грамадскіх працэсаў свайго часу? Артыкул прафесара з Германіі Х. Фрошле прысвечаны адносінам вялікага немца да славянскага свету і рускай культуры. Артыкул, сам па сабе змястоўны, наводзіць на сумны роздум — зразумела, не аб тым, што для Гётэ Расійская імперыя была экзатычнай краінай, што ён не ведаў рускай літаратуры і ні з кім з пісьменнікаў, акрамя Жукоўскага, не сустракаўся. На жаль, прафесар пра тагачасную Беларусь мае вельмі слабое ўяўленне, інакш ён не адносіў бы згаданага Антонія Радзівіла да дзеячаў польскай культуры. Пра Вялікае княства Літоўскае, як адзін з суб'ектаў канфедэрацыйнай Рэчы Паспалітай, ён. Фрошле не згадвае наогул. Сумна, але... ці не самі мы вінаватыя ў тым, што легкадумна аддаём нашых знакамітых творцаў культурам іншых краін і народаў?..

Пранікненню творчасці Гётэ ва ўласна беларускую культуру прысвечаны артыкул У. Сакалоўскага "Гётэ ў духоўным жыцці Беларусі". Як зазначыў аўтар, да 20-ых гадоў нашага стагоддзя "замежнік Гётэ да нас прыходзіў у замежных перакладах". Дарэчы, мясцовая інтэлігенцыя напрыканцы мінулага стагоддзя была пераважна польскамоўнай. Рускай мовай карысталіся "перасяленцы" з цэнтральных губерняў, якіх забаўлівалі ў нашу краіну з мэтай яе "окончательного обрусения": чынавенства, праваслаўнае святарства, вайскоўцы. Тым не менш, Гётэ і ў рускіх перакладах уплываў на беларускую літаратуру, што можна бачыць па драматычных паэмах Янкі Купалы "Сон на кургане", "Адвечная песня", у творах Коласа і Багдановіча.

У 1926-ым годзе на сцэне Купалаўскага тэатра пабачыла свет опера Гуно "Фаўст", а першы пераклад лібрэта на беларускую мову зрабіў Ю. Дрэйзін. Першы поўны пераклад самой трагедыі ажыццявіў адночна нядаўна Васіль Сёмуха. Паэзію Гётэ перакладалі В. Вольскі, Н. Арсеннева, Ю. Гаўрук, а з сучаснікаў — А. Лойка і Л. Баршчэўскі. (Праўда, пра апошняга — таленавітага паліглота-перакладчыка — У. Сакалоўскі чамусьці не згадвае.)

Без вершаў юбіляра ў альманаху нельга было абысціся, і вось тут чытача чакае вялікае расчараванне: у кантэксце тэмы "Гётэ і Беларусь" вершы паэта побач з арыгіналам пададзены... у рускім перакладзе!

Гэтую "лыжку дзёгцю" можа падсаладзіць найцікавейшы артыкул В. Выхоты, у якім аўтарка супастаўляе мову паэмы Коласа "Новая зямля" і мову класікаў нямецкай паэзіі. Не сюжэты, а менавіта мову! Справа ў тым, што кожны беларус ведае нашмат болей нямецкіх слоў, чым яму здаецца. Згадайце хіба котку *(Katze)*, што шпацыруе *(spaziert)* па даху *(Dach)* ці па страсе *(Strohdah)*...

Мастак Арлен Кашкурэвіч прадставіў для "Wie geht's?" дзевяць ілюстрацый да славутай паэмы, выкананых у стылі трохі рамантызаванага манументалізму. Мастак абяцае "новый поворот в раскрытии темы" і выконвае абяцанне. У яго інтэпрэтацыі "Фаўст" паўстае выключна змрочным, нават інфернальным. Што ж, чалавеку нашага часу вядома, чым заканчваюцца спробы бязмежнай улады над сусветам, дэклараванай у рамантычным 18 стагоддзі.

Асаблівасць і безумоўная вартасць выдання: усе тэксты падаюцца з паралельнымі нямецкімі адпаведнікамі. Гэта, безумоўна, ацэняць усе, хто вывучае нямецкую мову ці ўжо ведае яе. Шкада, што наклад альманаха — "самвыдатаўскі", усяго 300 асобнікаў...

**Галіна ЛЕВІТАН**

КАНФЕРЭНЦЫІ

# Піяністы супраць стэрэатыпаў

Міжнародны конкурс піяністаў "Мінск-2000" даў спажыву для роздуму аб праблемах фартэпіяннага выканальніцтва. Пасля двух тураў гэтага музычнага спаборніцтва некаторыя члены журы разам з выкладчыкамі Беларускай акадэміі музыкі і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў сабраліся для падвядзення пэўных вынікаў, абмеркавання перспектыў і г.д. У канферэнцыі бралі ўдзел першы прарэктар БАМ, прэзідэнт Беларускай асацыяцыі педагогаў фартэпіяна BELEPTA (пад эгідай якой і адбылося гэта мерапрыемства), доктар навук, прафесар, акадэмік Міжнароднай акадэміі навук вышэйшай школы В. Яканюк, загадчык кафедры спецыяльнага фартэпіяна БАМ В. Шацкі, рэктар Маскоўскай кансерваторыі прафесар М. Аўчыннікаў, прадстаўнік Польшчы і прэзідэнт шапэнаўскага таварыства ў Штутгарце М. Лукашчык, прафесар Кіеўскай кансерваторыі В. Казлоў.

Вылучаўся даклад В. Яканюка, прысвечаны беларускай фартэпіяннай школе, стан якой аналізаваўся ў кантэксце еўрапейскай музычнай культуры. У яго аснoўнай частцы разглядаліся асаблівасці стаўлення беларускай фартэпіяннай школы: яна звязана з традыцыямі маскоўскай і санкт-пецярбургскай школ, якія, у сваю чаргу, лічацца "нашчадкамі" еўрапейскага піянізму. Даклад быў праілюстраваны схемай, што дазваляла бачыць усе вытокі, галіны, напрамкі развіцця беларускай фартэпіяннай традыцыі. Асабліва месца тут заняў пералік імёнаў нашых вядомых педагогаў — прадстаўнікоў кафедры спецыяльнага фартэпіяна, канцэртмайстарскага класа, камернага ансамбля БАМ, а таксама тых, хто ўзначальваў рэгіянальныя напрамкі нацыянальнай фартэпіяннай школы. Важную ролю ў яе фарміраванні адыгралі тыя напрамкі, якія былі прадстаўлены імёнамі К. Ігумнава, Т. Нікалаевай, С. Нейгаўза, А. Гальдэнвейзера, добра вядомымі ў еўрапейскай культурнай прасторы. Іх выканальніцкі стыль вядзе свой пачатак ад К. Чэрні, Л. ван Бетховена, І. Г. Альбрэхтсбергера, М. Кляменці ды інш.

Выступленне М. Лукашчыка было прысвечана напрамкам фартэпіяннага выканальніцкага мастацтва ў Варшаве. Прамоўца падкрэсліў розніцу паміж шапэнаўскай і расійскай піяністычнымі традыцыямі, а таксама адзначыў рознабаковыя ўплывы польскай школы на іншыя, у тым ліку на беларускую.

Прафесар В. Казлоў спыніўся на гісторыі развіцця ўкраінскай фартэпіяннай школы, росквіт якой прыпаў на 1960-я гады. Было адзначана, што на Украіне развіваецца маскоўская галіна фартэпіяннага выканальніцтва. Гаворка таксама ішла пра ўкраінскія конкурсы піяністаў (імя Горавіца, Крайнева).

Рэктар Маскоўскай кансерваторыі М. Аўчыннікаў вызначыў у фартэпіянным выканальніцтве шмат розных праблем. Яго выступленне было накіравана супраць стэрэатыпаў, штампаў у выканальніцтве, якія ствараюць пэўную перашкоду для музыкантаў. Наш госць выказаў пажаданне прыслухоўвацца да выканаўцаў, якія граюць "не так", "не як усе", "не як трэба", гэта значыць, маюць свой погляд на твор, сваю інтэрпрэтацыю. Ён прапанаваў ідэю правядзення фартэпіянных фестываляў кшталту "кірмашоў спевакоў" на Русі: гэта дапамагала б музыкантам выйсці з сістэмы выканальніцкіх стэрэатыпаў.

Прафесар В. Шацкі ўзняў вельмі важную праблему рэпертуару: паўтарэнне з году ў год, з конкурсу ў конкурс вядомых аднолькавых твораў стварае аднастайнасць і ў канчатковым выніку збядняе музычную атмасферу конкурсу.

Такім чынам, на канферэнцыі аналізаваліся вытокі беларускай фартэпіяннай школы, яе недахопы, акрэсліваліся і пазітыўныя моманты. Напрыклад, тое, што кожны год праводзяцца выканальніцкія фестывалі ў абласных цэнтрах. У планах — праводзіць іх у кожным горадзе, што дасць магчымасць выяўляць новыя маладыя таленты.

**Алена ЯРАШЭВІЧ, студэнтка 3 курса Беларускай акадэміі музыкі**

ГАСТРОЛІ

# Купалаўцы ў Тальяцi

Спектаклем купалаўцаў "Лес" А. Астроўскага ў пастаноўцы Валерыя РАЕЎСКАГА распачаўся Міжнародны тэатральны фестываль у Тальяці. Абраная тэма фестывалю — адлюстраванне рускай класікі на сучаснай сцэне славянскіх тэатраў, — сцвярджае неабходнасць духоўнага яднання славянскіх народаў сродкамі тэатральнага мастацтва на парозе новага стагоддзя. Для арганізатараў фестывалю прынцыпова важным з'яўляецца ўдзел тэатраў з Беларусі, Украіны, разам з тэатральнымі калектывамі Масквы, Санкт-Пецярбурга, Саратава, Омска, Яраслаўля.

У фестывальнай афішы — 17 спектакляў розных тэатральных калектываў якія прадстаўляюць творы вядомых рускіх класікаў: А. Талстой, Ф. Дастаеўскі, М. Горкі, Ф. Салагуб, П. Каратыгін, А. Астроўскі, Л. Андрэеў, А. Чэхаў, М. Гогаль. Першы міжнародны тэатральны фестываль на Волзе завершыўся 29 красавіка. Журы вызначыла пераможцаў. Але ўжо тыя гарачыя апладысменты глядзельнай залы, якія суправаджалі амаль кожны выхад купалаўцаў у спектаклі "Лес", сведчаць аб тым, што фестываль прайшоў бліскуча. Члены журы вядомыя тэатральныя крытыкі з Масквы, Санкт-Пецярбурга пасля спектакля далі высокую ацэнку выканаўчаму майстэрству купалаўскіх акцёраў, асобна адзначылі Аўгуста Мілаванава (Шчасліўцаў), Сяргея Краўчанку (Нешчасліўцаў), Галіну Талкачову (Гурмыжская), Галіну Бальчэўскую (Уліта), маладых выканаўцаў Аляксандра Малчанава, Святлану Анікей, Аляксандра Аўчыннікава.

**Наш кар.**

1945—2000

# Галоўная кніга яшчэ напішацца

***Наш карэспандэнт гутарыць з народным пісьменнікам Беларусі, ветэранам Вялікай Айчыннай вайны Іванам ШАМЯКІНЫМ***

**— Іван Пятровіч, прывяла мяне да вас святочная нагода — набліжаецца 55-ая гадавіна Перамогі ў вайне з фашысцкай Германіяй. Ці думалі вы на Одэры ў памятным сорак пятым пра тое, што некалі будзеце сустракаць дзень 9 мая пяцьдзесят пяты раз?**

— Вы ведаеце, дата 9 мая для тых з нас, хто дажылі да яе, — незвычайная і шчаслівая. Усё-такі пражыць пяцьдзесят пяць гадоў без вайны, папрацаваць, выгадаваць дзяцей, унукаў — гэта яшчэ адзін наш подзвіг, подзвіг старых людзей. Ну вядома ж, тады я не думаў, што буду сустракаць некалі такую дату. Я сапраўды быў тым днём сорак пятага недалёка ад Одэра, на прытоку Одэра Варце, у горадзе Ландзбергу на Варце. Мы прыкрывалі штаб Г. Жукава. Я ваяваў у зенітнай артылерыі. Канечне ж, як сёння памятаю тую ноч на 9 мая 1945 года, калі мы пачулі па радыё выступленне Міхаіла Іванавіча Калініна, калі было аб'яўлена аб падпісанні Германіяй капітуляцыі і аб тым, што 9 мая абвяшчаецца Днём Перамогі. Гэта незабыўнае ўражанне. Я й зараз помню, як мы радаваліся, як салютавалі са сваёй зброі, нават з гармат, як у гэтай бязмежна шчаслівай сумятні выпадкова падпалілі недалёкі заводзік, які выпрацоўваў штучны шоўк для парахавых мяшкоў. Ён гэтак здорава палаў у цемры начы...

**— Блізкая ўжо гадавіна слаўнай Перамогі нараджае шмат пытанняў, і іх цяжкавата выстраіць па парадку. Пачну з такога. Кажуць, ува ўсіх былых савецкіх людзей была адна вайна, але адначасова і ў кожнага — свая. Гэтую ўсіхную, але адначасова і "сваю ўласную" вайну вы неадноўчы апісвалі ў сваіх творах, найперш, бадай, у пенталогіі "Трывожнае шчасце". Іван Пятровіч, ці змянілася што-небудзь у вашых поглядах на ўсіхную і сваю вайну за гэтыя пяцьдзесят пяць гадоў?**

— Можа быць, я падамся кансерватарам, але ў маіх поглядах асабліва нічога не змянілася. Прыгадваю, як я пісаў свой першы раман "Глыбокая плынь", седзячы ў зямлянцы ў 1947—48 гадах у вёсцы. Раман аб партызанах. Калі б я зараз узяўся за гэтую тэму, не ведаю, напісаў бы лепш ці горш, але па задуме, па сюжэце, па сістэме вобразаў напісаў бы тое самае.

Сапраўды, для ўсіх нас была адна вайна, яна была нашай агульнай вялікай і страшнай трагедыяй. Але і ў кожнага была свая вайна. Свая вайна была і па месцы, якое мы займалі ў ёй — хто ваяваў у партызанах, хто на фронце — у авіяцыі, у танкавых часцях, у пяхоце. Апошняй дасталося больш, там было найбольш страт. Я быў у зенітнай артылерыі, як ужо казаў, у нас страт было не гэтак многа, як у пяхоце ці нават у танкавых войсках. Тым больш, што першыя два гады вайны, да канца 1942-га, мы стаялі ля Мурманскага порта, куды саюзнікі прысылалі ваенныя грузы. Немцы, калі прыходзіў караван караблёў, бамбілі бязлітасна. У пачатку вайны ахоўвалі мы порт кепска, пакуль не навучыліся збіваць нямецкія самалёты. А пасля загналі іх на вышыню 3-4 кіламетры, а пры тагачаснай тэхніцы бомбакіданне з такой вышыні ўжо не было надта прыцэльным.

За гэтыя 55 гадоў я сустракаўся і гутарыў з многімі тысячамі людзей, якія ваявалі ў самых розных часцях і ў розных месцах, на розных франтах, якія сталі прататыпамі многіх маіх персанажаў. І ўсе яны расказвалі мне пра гэтую агульную вайну па-свойму, і ўсё было вельмі цікава, і хацелася кожнага, як кажуць, уставіць у раман ці аповесць.

Наша беларуская літаратура адлюстравала падзеі вайны, партызанскі рух найпаўней, чым любая іншая літаратура былых саюзных рэспублік. Пра гэта нямала напісана і намі, старэйшымі пісьменнікамі, удзельнікамі вайны, і маладзейшымі, што прыйшлі ў літаратуру пасля нас. Тым жа Іванам Чыгрынавым, напрыклад, раман якога "Плач перапёлкі" — проста шэдэўр, я ім заўсёды захапляўся...

**— Іван Пятровіч, савецкія людзі былі пераможцамі ў той страшнай і вялікай вайне з фашызмам. І вось парадокс: прайшлі гады, а пераможцы ўсё яшчэ жывуць горш за пераможаных, і нашы людзі радыя кампенсацыям, што выплачвае сёння Германія былым остарбайтэрам і вязням канцлагераў. Што вы думаеце пра ўсё гэта? Урэшце, як жывецца сёння асабіста вам, народнаму пісьменніку Беларусі і ветэрану Вялікай Айчыннай вайны?**

— Гэта вельмі сумная, вельмі балючая тэма для нас, удзельнікаў вайны, і для нашых дзяцей. Сапраўды, несправядліва, што мы, пераможцы, жывём непараўнальна горш, чым, скажам, немцы, і аўстрыйцы, і фіны, якія ваявалі з намі там, на Поўначы, на Кольскім паўвостраве. Гэта балюча! Што гэта самая кампенсацыя?! Я мяркую, што кіраўніцтва былога Савецкага Саюза вельмі вінаватае ў гэтай сітуацыі. Вінаватае ў першую чаргу ў тым, што развалілі нашу вялікую дзяржаву. Даравацъ гэтага нельга. Вінаватыя кіраўнікі, пачынаючы з Брэжнева, пры ім пачаўся гэты развал, і канчаючы Гарбачовым, Ельцыным і ўсімі іншымі. У мітусні гэтых палітычных махінацый яны забыліся на наш народ. З Германіі трэба было спагнаць добрую кантрыбуцыю. Нават і тады, калі Гарбачоў падпісаў пагадненне, калі разбуралі Берлінскую сцяну, калі Ельцын паехаў туды і "дырыжыраваў аркестрам" падчас вываду савецкіх войск з ГДР. Нават і тады яшчэ не позна было запатрабаваць з немцаў нейкую кампенсацыю за нанесеныя імі страты, за зведаныя намі з іх "ласкі" раны, пакуты і нягоды. А што атрымалася? А тое, што, аказваецца, мы вінаватыя немцам, яны прад'яўляюць прэтэнзіі, што нашы ваенныя гарадкі парушылі, нанеслі шкоду іхняй экалогіі. Але што гэта ў параўнанні з тым, якія страты зведалі, панеслі мы тут, на сваёй зямлі? Усё было знішчана, разбурана, разрабавана! Мы пачыналі жыццё пасля вайны з нуля. Тыя капейкі, якія атрымалі нашы людзі, што былі вывезены на катаргу ў Германію, — гэта проста здзек. А тыя, хто ваяваў, хто быў у палоне, наогул нічога не атрымалі...

А што да таго, як мы сёння жывём, дык што тут сказаць? Усе мы збяднелі. Збяднеў наш народ, збяднелі нашы творцы. Я думаю, што гэта таксама несправядліва. Несправядліва, што ў нас такія мізэрныя ганарары. Несправядліва, што нас так мала выдаюць і зусім не перавыдаюць. Стары пісьменнік, даўно сказана, павінен жыць не за кошт выдання новых кніг, а за кошт перавыданняў, бо стары чалавек не заўсёды здольны пісаць. Але нічога не перавыдаецца. Я чалавек актыўны. Летась у "Полымі" друкавалася мая аповесць "Пошукі прытулку", у снежаньскім нумары, у першым нумары "Беларускай думкі" за сёлетні год змешчана аповесць "У засені палаца", але, паўтаруся, ганарар мізэрны. Бедна мы жывём. Карыстаючыся выпадкам, хачу звярнуцца і да нашага прэзідэнта, і да нашага ўрада, і да нашага новага прэм'ера: трэба перагледзець стаўкі ганарару, трэба павысіць іх. Гэта ненармальна, каб народны пісьменнік зарабляў у дванаццаць разоў менш, чым якая-небудзь сярэдняя эстрадная спявачка. Мы ўсё ж летапісцы часу, мы ствараем новае, а тая ж спявачка — толькі выканаўца. Другое: нельга скарачаць аб'ёмы нашых часопісаў. Нам няма дзе друкавацца. "Полымя" з 20-ці аркушаў скарацілася да 7-9-ці аркушаў, раман надрукаваць немагчыма. Нас 500 чалавек прафесійных літаратараў, а дзе друкавацца? Малады пісьменнік ссівее, а чаргі можа й не дачакацца на публікацыю сваіх твораў. Трэцяе — выданне кніжак. Пры савецкай уладзе ў плане выдавецтва "Мастацкая літаратура" было 180 кніжак у год, зараз — 40. Таму я і прашу прэзідэнта звярнуць увагу на нашага брата-пісьменніка, памагчы нам.

**— Адразу пасля вайны вы настаўнічалі ў вёсцы, былі сакратаром сельсавецкай партыйнай арганізацыі, бачылі, самі зведалі, як цяжка жылося нашым людзям. Найцяжэй было, вядома ж, жанчынам-удовам, так званым салдаткам, якія вымушаны былі выжываць адны, весці гаспадарку і гадаваць дзяцей, ды яшчэ й зведваць часта незаслужаныя крыўды і зняважанні. Іван Пятровіч, салдаткі — гэта таксама ветэраны, гераіні вайны?**

— Мы яшчэ поўнасцю не ўславілі салдатку, маці, якія ваявалі і выхоўвалі дзяцей. Я памятаю тых жанчын, якія аралі на сабе. Шэсць упрагаліся ў плуг, сёмая ішла за плугам. Гэта цяжка ўспамінаць, у якіх пакутах з'яўлялася на стале тады тая ж бульбіна. У мяне на ўроках дзеці трацілі прытомнасць ад голаду. Неразумная была палітыка ў адносінах да сялянства, пачынаючы з калектывізацыі, калі баяліся даць людзям нават лішні кавалак зямлі. Хай бы была ў сям'і гэтая зямля, з яе была б і бульбіна, і капусціна. Жанчыны, маці, салдаткі заслугоўваюць самай вялікай павагі, яны варты таго, каб пра іх пісалі і пісалі. Мне падабаецца, што нашы маладзейшыя пісьменнікі славяць мацярок. Вельмі падабаецца кніга Уладзіміра Ліпскага пра маці — гэта сапраўдная паэма пра самага роднага на свеце чалавека.

**— Так, наша літаратура прысвяціла падзеям мінулай вайны, партызанскай барацьбе на Беларусі шматлікія і ці не самыя свае значныя, важкія і цікавыя творы. Тым не менш, ці ўсё яна сказала пра велізарную трагедыю, якую перажыў у гады вайны і пасля яе наш народ?**

— Сапраўды, напісалі мы шмат. Пісьменнікі ўсіх пакаленняў, пачынаючы ад Якуба Коласа, Янкі Купалы, Міхася Лынькова, Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Пімена Панчанкі, творцы нашага пакалення, удзельнікі вайны — Янка Брыль, Іван Мележ, Іван Навуменка, Васіль Быкаў, Уладзімір Карпаў, Аляксей Кулакоўскі, Андрэй Макаёнак, Алесь Савіцкі і многія іншыя. Потым прыйшлі маладзейшыя — Іван Пташнікаў, Міхась Стральцоў, Віктар Казько, Іван Чыгрынаў, Барыс Сачанка, Павел Місько, Вячаслаў Адамчык, Анатоль Кудравец, Алесь Жук, Генрых Далідовіч, Віктар Карамазаў, Аляксей Дудараў, — можна называць і яшчэ нямала імёнаў і з тых ваенных пакаленняў, і з тых, хто нарадзіўся пасля вайны. Не менш зрабілі і паэты. Успомнім Аляксея Пысіна... Напісалі мы шмат. Але тэма гэтая невычэрпная, незабыўная. І канечне ж, пра вайну не ўсё сказана. І пра партызаншчыну нашу — таксама. Так, паміж атрадамі часам ішло нядобрае спаборніцтва. Адны атрады ўтвараліся з мясцовага насельніцтва, другія пасылаліся, закідваліся ў тыл органамі ўнутраных спраў і дзяржбяспекі, трэція — па лініі армейскай разведкі. Ёсць нямала нюансаў, пра якія яшчэ не ўсё сказана. Нават не ўсё сказана пра наша трагічнае мінскае падполле, пра тое ж забойства гаўляйтэра Кубэ — і яно вымагае больш глыбокага даследавання, чым сказала Марыя Осіпава і іншыя сведкі.

**— Што адрознага, адметнага ў паказе падзей, канфліктаў, трагедыі вайны паміж пісьменнікамі вашага пакалення і маладзейшымі калегамі?**

— Яны, безумоўна, працягвалі нашы традыцыі. Праўда, пісалі яны ўжо трохі інакш. Магчыма, у сілу сваёй чыста літаратурнай падрыхтоўкі. Маё, наша пакаленне яе проста не мела. Вось я, скажам. Да вайны скончыў тэхнікум будаўнічых матэрыялаў. І толькі пасля вайны вучыўся завочна ў Гомельскім педагагічным інстытуце, а яшчэ пасля — у партшколе, дзе было больш палітыкі, чым літаратурнай вучобы. Маладзейшае пакаленне пісьменнікаў, якое прыйшло пасля нас, у шасцідзесятыя гады, у асноўным было філалагічнае пакаленне. Яны канчалі ўніверсітэты, прафесійна яны былі больш падрыхтаваныя да літаратурнай працы, і ім, магчыма, — тым жа Чыгрынаву, Казько, Сачанку, Адамчыку, Стральцову, — удалося глыбей капнуць у раскрыцці тэмы вайны.

**— Іван Пятровіч, колькі часу назад усё ў падзеях вайны трактавалася проста: свае і чужынцы. Аднак жа час уносіў тыя ці іншыя карэктывы, высвечваў сёе-тое па-іншаму. Памятаеце, Іван Чыгрынаў назваў быў свой чарговы раман з Верамейкаўскай хронікі "Свае і чужыя", а яму настойліва паралі назваць яго "Свае і чужынцы". Сітуацыя была такой, што ў нечым партызанская вайна на Беларусі набывала рысы і грамадзянскай вайны, калі ішоў, як кажуць, брат на брата, сусед на суседа. Пра гэта больш сказала наша эміграцкая літаратура, якую мы доўга не прызнавалі і не залічвалі творы пісьменнікаў-эмігрантаў да здабыткаў нашай літаратуры. Урэшце ўсё-такі іх прызналі, іх творы вярнуліся на Бацькаўшчыну, у незалежную Беларусь. Што вы пра гэта скажаце, Іван Пятровіч?**

— Вы ведаеце, я не пагаджуся з думкай, што эмігранты нешта лепш паказалі, чым мы. Нічога асабліва эмігранты не стварылі. Я нядаўна чытаў Масея Сяднёва, і чытаў без захаплення. Эмігранты лічылі сябе пакрыўджанымі — многія з іх трапілі пад сталінскія рэпрэсіі, пасля ім неяк удалося выехаць у Злучаныя Штаты Амерыкі ці аж но ў Аўстралію. Яны не ведалі вайны, не ведалі яе асаблівасцей, забыліся на быт народа, тым больш быт ваенных пары. Гэта вельмі слабыя творы. Можа, паэзія лепшая, больш глыбокая — вершы Н. Арсенневай, Л. Геніюш, А. Салаўя... А што да прозы, дык я не магу тут што-небудзь вылучыць. Урэшце, калі мы, паводле іх, былі ідэйна зацыкленыя, дык і яны таксама зацыкленыя, толькі ўжо з іншага боку. У іх была свая крыўда,

*(Працяг на стар. 12)*



# "Палеская хроніка" Івана Мележа

Гэта кніга другога рамана са знакамітай "Палескай хронікі" народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа, у якую, як вядома, увайшлі таксама "Людзі на балоце" і "Завеі, снежань". Усе яны і перавыдадзены "Мастацкай літаратурай" у серыі "Школьная бібліятэка". Але, трэба спадзявацца, і гэтае перавыданне класічных твораў беларускай літаратуры зацікавіць не толькі старшакласнікаў, каму яно адрасавана ў першую чаргу. Наклад кожнага тома больш за 19 тысяч, а гэта значыць, што "Палеская хроніка" знойдзе яшчэ шмат новых прыхільнікаў сярод align="right"разнага кола чытачоў, якія захочуць набыць яе для сваіх бібліятэк. А перачытваць "Палескую хроніку",

ІВАН МЕЛЕЖ
ПОДЫХ НАВАЛЬНІЦЫ



адно задавальненне. Пачынаючы з першага рамана "Людзі на балоце", адгарнуўшы які адразу трапляеш у свет, што прываблівае да сябе і хочацца як мага хутчэй увайсці ў яго, каб пазнаёміцца з людзьмі, якія з'яўляюцца часткай той стыхіі, што называецца палескай: "Хаты былі на востраве. Востраў гэты, праўда, не кожны прызнаў бы за востраў — аб яго не плёскаліся ні марскія, ні нават азёрныя хвалі. Навокал адно гніла куп'істая дрыгва ды моклі панурыя лясы". І далей працяг уваходжання ў гэты невядомы свет падаецца пісьменнікам гэтаксама па-майстэрску: "Вёска тулілася ля берага вострава — платы агародаў дзе-нідзе забягалі на куп'ё ўзбалотка. З другога боку, на поўнач, балоты крыху адступалі, дорачы людзям пясчанае поле. Адступалі балоты і на заходнім баку, дзе рунелі ці жаўцелі да краю лесу палі, таксама скупыя, няўдзячныя, хоць у іх глебе і было менш пяску. З поўдня балоты зноў падбіраліся да саламяных, замшэлых радоў стрэх, але ў гэты бок ішла найбольшая сувязь са светам, і там на дрыгве была намошчана дарожка". Але свет Палесся яшчэ лепш раскрываецца, калі знаёмішся з тымі, хто здаўна жыў на гэтай зямлі, не сумняваючыся, што яна найлепшая ў свеце. І каторы раз здзіўляешся майстэрству пісьменніка ва ўменні раскрываць іх характары. Асабліва гэта тычыцца сюжэтнай лініі, звязанай з Ганнай Чарнушкай. І. Мележ, расказваючы пра яе каханне да Васіля, а калі шырэй — пра пошукі Ганнай сапраўднага кахання, узняў гэтую звычайную жанчыну-паляшучку па ўзроўні свайго пачуцця да тургенеўскіх гераінь, якія ўмелі кахаць самаахвярна, апантана. Але то быў свет вышэйшага грамадства. І. Мележ пераканаў, што беларуская жанчына нічым не горшая за лепшых прадстаўніц яго. І ўжо гэтага дастаткова, каб ставіцца да "Палескай хронікі" па-асабліваму. Але ж, як вядома, свет герояў І. Мележа гэткі ж непаўторны, як і свет усяго Палесся, усёй палескай прыроды. Дзесяткі персанажаў праходзяць перад намі і кожны з іх па-свойму запамінальны. Пра каго б ні пісаў І. Мележ — пра Яўхіма Глушака, пра Ганну Чарнушку ці Хадоську, пра Халімона Глушака ці пра Міканора — спіс гэты можна доўжыць, ён падыходзіць да кожнага з іх з чорнаўскай упэўненасцю, што чалавек — гэта свет. У "Палескай хроніцы" ў кожным чалавеку адлюстраваны свет. Страсцей, сумненняў, разваг. Свет самога жыцця. На чацвёртую старонку вокладкі кнігі "Подых навальніцы" вынесены словы народага паэта Беларусі Максіма Танка: "Гэта хвалюючая эпапея па свайму жыццесцвярджальнаму пафасу, драматызму, паэзіі і аналізу станаўлення новага жыцця належыць да лепшых твораў нашай савецкай літаратуры... Яго самабытная творчасць нагадвае паўнаводную плынь ракі, якая, прабіўшыся з жыццядайных народных глыбінь, нават уліўшыся ў акіян, на значных яго прасторах, надае хвалям свой адметны колер, свой характар".

Лепш і не скажаш. Застаецца толькі чытаць (і перачытваць!) неўміручую творчую спадчыну І. Мележа.

Юрась ВАЙСЁНАК

ПАЭЗІЯ

Паўлюк ПРАНУЗА



## Дуга

*У цяжкіх бітвах, у смяротным гуле,*
*Засведчыць я,*
*былы салдат, магу,*
*Мы Курскую дугу ўсё ж разагнулі.*
*Цяпер жа перад кім мы у даўгу?*

*І нам свяцілі перамогі зоры,*
*Маглі спакойна ў будучынь зірнуць.*
*А вось дугі жабрацтва, болю, гора*
*Не можна аніяк мы разагнуць.*

## Чорная бяда

*Дзе Чарнобыль чорны*
*Крылы распасцёр,*
*Плача там і цьмее*
*Чорнае жыццё.*

*Чорнае паветра,*
*Чорная труна.*
*Без снарадаў, бомбаў*
*Чорная вайна.*

*Чорныя палеткі,*
*Чорныя бары,*
*Нават пачарнелі*
*Зорак ліхтары.*

*Непітная ў рэчках*
*Чорная вада.*
*У збалелых сэрцах*
*Чорная бяда.*

## Дзе той прыпынак?

*У перапоўненых вагонах*
*Ляцім. Насустрач — ноч, імгла.*
*Мінулі многа перагонаў,*
*Няма станцыйнага святла.*

*І болем працінае сэрца*
*За родны край, сваю зямлю.*
*Услед інфляцыя пляцецца,*
*На нас накідвае пятлю.*

*Куды ж імчым? Дзе тое шчасце,*
*Што абяцалі нам даўно?*
*Ды ўсё не чую: "Людзі, злазьце",*
*Ды ўсё прыпынку не відно...*

## Палессе

*Лагчына. Азёры. Па лесе*
*Дарога віецца, бяжыць.*
*Зялёнае мора — Палессе —*
*Не можа не заваражыць.*

*Я ім, як юнак, зачарован...*
*Пад дубам дзядуля сівы.*
*А, можа, Андрэй Лабановіч*
*Сярод гаманлівай дзятвы?*

*Дыханне стаіўшы, дзівіўся,*
*Хоць бачыў багата ў жыцці,*
*Гукнула бабуля: "Ядвіся!" —*
*Дзяўчынку гадоў дзесяці.*

*Разліта маўклівасць наўкола,*
*Не чутна машын, цягнікоў.*
*Здаецца, што выйдзе Колас*
*З кошыкам баравікоў*

*З зялёнага мудрага бору,*
*Раскажа нам быль, навіну...*
*Засеялі светлыя зоры*
*Высокіх нябёс цаліну...*

## А большай не шукай красы

*Каб востры боль пераадолець,*
*Каб выселіць яго з душы,*
*Ты выйдзі раніцай у поле,*
*Пастой на золаку ў цішы.*

*Паслухай каласоў размову,*
*Зірні на зорачкі расы,*
*Пачуй там голас жаўруковы...*
*А большай не шукай красы.*

## Як вобраз маці...

*Ад пройдзенага я не адракуся,*
*Таму, чым жыў, аддаў нямала сіл.*
*У сэрцы вобраз роднай Беларусі,*
*Як вобраз маці, дзе б ні быў, насіў.*

## Не чакай...

*Не чакай натхнення, як пагоды,*
*Не сядзі на беразе надзей,*
*Бо яно таму узнагарода,*
*Хто з жыццём плячо ў плячо ідзе.*

## Не мяняўся...

*Мяне жыццё хапала ў абцугі,*
*Я ад бяды, ад гора адбіваўся.*
*Паводка затапляла берагі,*
*Але ракі напрамак не мяняўся.*

## Паэту-франтавіку Пятру Прыходзьку

*Не помніш ты сваёй матулі,*
*Не чуў ласкавае: бай-бай...*
*Год сорак першы. Ты пад кулі*
*Пайшоў абараняць наш край.*

*Была нялёгкая дарога,*
*Раўла раз'юшаная сталь.*
*Былі суровым педагогам*
*Баі, паходы і шпіталь.*

*Давала сіл табе адвага,*
*І пamужнеў ты на вайне.*
*Данёс ты гнеў свой да рэйхстага*
*І распісаўся на сцяне.*

*Ты юнаком падаў свой голас*
*Сябрысты, нібы ручаёк.*
*Цябе вучыў Купала, Колас*
*У верш пастравіць свой радок.*

*І зброяй і радкамі верша*
*За родны край ты ваяваў.*
*Быў у баі адважным першым,*
*Сяброў на подзвігі натхняў.*

*Табе жыццё ўжо адлічыла*
*Нямала баявых гадоў.*
*У сэрцы адчуваеш сілу,*
*Служыць Радзіме ты гатоў.*

3.III.2000

Сяргей РАБЧУН



# Белыя птахі

●

*Не сумнявайся*
*ў непахіснасці асноў.*
*Якой бы сонца*
*ні зацягвалася хмарай, —*
*ты застанешся для мяне*
*ружовым сном,*
*я застануся для цябе*
*блакітнай марай.*

*І як жыццё*
*ні пачынай сваё наноў, —*
*не адцураешся*
*прывабнай асалоды:*
*ты будзеш сніцца*
*мне такою зноў і зноў,*
*я буду мроіцца*
*такім табе заўсёды.*

●

*...А я не Бог,*
*каб даравацъ табе грахі.*
*Мой сціплы парастак*
*узрос на іншай глебе.*
*Нас па жыцці вядуць*
*асобныя шляхі:*
*твой — па зямлі цябе,*
*а мой мяне — па небе.*

*І не жартуй,*
*што я залішне самалюб, —*
*цябе мне з памяці*
*ніколі ўжо не сцерці.*
*Але аднойчы*
*я спушчуся на зямлю,*
*каб як звычайнаму*
*смяротнаму памерці.*

●

Брату Аляксандру

*Ужо не прывучу*
*я жыць сябе інакай.*
*І хто такі Рабчун —*
*наўрад ці растлумачу.*

*Пад ветра завыццё*
*дрыжу ўначы паджылкамі...*
*І што маё жыццё —*
*работа над памылкамі.*

## Ісціна

*Уся віна мая — ўва мне,*
*як і ў табе — твая віна.*
*Хто кажа: ісціна ў віне, —*
*не піў сапраўднага віна.*

*А той, хто зведаў пыл дарог,*
*чый позірк засціла зіма,*
*адкажа: ісціна — ёсць Бог,*
*якога, лічыш ты, няма.*

●

*За мяжой вар'яцтва*
*спаць кладзецца ноч.*
*Хочацца застацца*
*ў промнях Вашых воч,*
*хочацца змагацца*
*за свята надзей...*

*За мяжой вар'яцтва*
*надыходзіць дзень*

●

*Мы час свой бяздумна*
*губляем на свеце,*
*Нас мала клапоціць*
*пакінуты след,*
*А ў муках на свет нараджаюцца*
*дзеці,*
*І ў муках з'яўляюцца*
*вершы на свет.*

●

*Неба шэрага шчыльны насціл*
*у абдымках будынкаў цагляных.*
*Мне б сапраўдныя*
*вочы знайсці,*
*каб у іх па-сапраўднаму глянуць.*

*Аднаму доўга нельга гарэць*
*на спакусу амуравым стрэлам...*
*Мне б сапраўднае сэрца сустрэць,*
*каб яно па-сапраўднаму грэла.*

## Мае вершы

*Вецер адчаю майго не пачуе.*
*Снежныя пасмы ўздымае ўгару...*
*Вершы мае, што начамі пішу я, —*
*ўсе, ад чаго, як у пекле, гару.*
*Вершы мае — быццам белыя птахі*
*ў шэрае неба з няволі ляцяць,*
*мне пакідаючы кволыя страхі,*
*з кожным радком набліжаючы*
*да плахі, —*
*І не трымцяць ад завей, не трымцяць.*

●

*Лічы, што так яно і ёсць,*
*у вочы гледзячы адданa:*
*ў тваім жыцці я*
*толькі госць,*
*які прыходзіць нечакана.*
*Як нечакана маладосць*
*нас год ад году пакідае...*
*Лічы што так яно і ёсць:*
*не толькі снег калісьці тае.*

●

*Мы з табой развітаемся хутка.*
*Толькі роспач не хутка міне.*
*Я табе падару незабудку,*
*каб і ты не забыла мяне.*

*Каб магла ты у сцюжу сагрэцца*
*успамінамі нашых сустрэч...*
*І яшчэ падару табе сэрца —*
*непатрэбную болей мне рэч.*

п. Плешчаніцы Лагойскага раёна

Сяргей ДУБОВІК

# ЧАР-ДАРЫ



АПАВЯДАННЕ

Мінамётную батарэю ўжо з месяц знялі з аэрадрома і перакінулі на ахову інжынерна-дарожнай роты, што атабарылася пад Хайратонам. Па Амудар'і туды сплаўлялі грузы, перагружалі з баржаў у кузавы аўтамашын, калоны распаўзаліся па шматлікіх гарнізонах “абмежаванага кантынгенту”. Расквашаную дарогу і павінны былі падтрымліваць у боскім стане дарожнікі, хаця за месяц-два нацягаць на разбітую ўшчэнт грунтоўку грэйдэрамі пяску і гравію — справа для роты бесперспектыўная.

Размясціліся ў стэпе, за паўкіламетра ад кар'ера, адкуль кожную раніцу з натугай выпаўзалі гружаныя скрэперы. Пад прыкрыццём “брані” яны з гадзіну дабіраліся ў адзін бок. Калоны не чакалі, імчалі і імчалі, перамолвалі пясок на жоўтую муку. З-пад колаў “Уралаў” яна разляталася на добры дзесятак метраў уздоўж дарогі, зводзячы на нішто ўсе намаганні людзей.

Накапалі і абсталявалі пад жытло з дзесятак зямлянак. На ноч выстаўлялі каравул, дзяжурыла некалькі разлікаў. Штодзень дзве паходныя кухні з раніцы да вечара чадзілі чорным дымам. Завезеныя на першым часе дровы канчаліся, пасеклі і спалілі ўсё, што гарыць, падсушылі ў печы вугаль. Бачкі ў палец абраслі сажай. Вады не хапала — за дзень вадавозка абарочвалася адзін раз: болей не ўправішся. Да бліжэйшага гарнізона кіламетраў сорак. Больш паловы вады ішло на прыгатаванне ежы, ды яшчэ каб збольшага памыць няхітры посуд. Салдаты прынараравіліся збіраць дажджавую ваду ў гумавы рэзервуар, але буднямі яе ашчаджалі — бераглі на нячастыя лазні. З раніцы, выправіўшы на “БАМ” — так ахрысцілі будоўлю — скрэперыстаў і ахову, мінамётчыкі распаўзаліся па зямлянках, бавілі час за нардамі. Маладыя салдаты, “духі”, корпаліся ў парку, абы не мазоліць вочы начальству і старэйшым таварышам. Бліжэй да паўдня збіраліся ля збітага з негабляваных дошак будана, чакалі абеду. Повар Маджыдаў доўга вылоўліваў у тэрмас “маслы”, паволі нёс у зямлянку афіцэрам. Пасля плюхаў у салдацкія казанкі па чарпаку капусты ці яшчэ чаго, папярэдне яшчэ абслужыўшы й “дзядоў”.

Наогул, такое жыццё — не самае горшае. Ні табе рызыкоўных аперацый, ні маршаў. Жыві цішком, чакай “дэмбеля”. Хлопцы прывыклі, спалі ўволю без надакучлівай муштроўкі бацькоў-камандзіраў.

Вечарам камбат паклікаў да сябе ў зямлянку механіка-вадзіцеля бэтээра яфрэйтара Сімакова. Так рабілася заўсёды, калі трэба было з'ездзіць у полк. Папярэджвалі з вечара, каб раніцай без цяганіны выбраўца ў дарогу.

Высокі каржакаваты капітан Міхаленя сядзеў за пастаўленымі адна на адну скрынкамі з-пад мін, побач — узводныя. Калода карт і лісток з запісамі пасярэдзіне стала — гулялі ў прэферанс. Праз малюсенькае крывое акенца з цьмяным кавалкам шкла ў зямлянку сачылася сінявaтае размытае святло, у паветры — настаялы пах нямытага мужчынскага адзення і тытунёвага дыму.

— Як твая машына? — кіўнуў на прывітанне салдата.

— На хаду. Можна ехаць, — Сімакоў зняў з галавы і камячыў у руках зашмальцаваную панаму. — Пайду бакі дазапраўлю. А так, здаецца, нармальна.

Камбат адсунуў карты, падышоў да Сімакова.

— Паедзеце зноў да Чар-Дары. Нябось не забыўся, дзе ён?

— Не. Ведаю.

— Старшына — за камандзіра. Ён сам скажа, што рабіць. Глядзіце, шлях няблізкі...

Ехалі стэпам напрасткі. Сімакоў углядаўся ў пажаўцелы быльнёг, стараўся разгледзець хоць якую сцежку. Але яе не было, і яму нічога не заставалася, як слухацца старшыну, прапаршчыка Літвінава, углядацца, куды той паказвае рукой. Звесіўшы ў люк ногі, Літвінаў сядзеў на ашмотку паралону, ёрзаў нагамі па бліскучай спінцы крэсла побач з Сімаковым. Дарогу той ведаў. Выгадаўшы па прамой кіламетраў з дваццаць, разлічвалі, калі пашанцуе, вярнуцца да прыцемкаў, каб не блудзіць цемраю па гэтым бяскрайнім утрамбаваным вякамі полі.

Роўны, быццам заасфальтаваны, стэп слаўся пад колы бэтээра, непакоіў маўклівай аднастайнасцю. Час ад часу ўдалечыні ўсплывалі невялічкія траншэйкі, ледзь прыкметнымі грудкамі рубцаваліся на гладкім абшары. Сімакоў ведаў — гэта кярызы. Неяк увесну бачыў, як дэхкане кетменямі з доўгімі дзяржаннямі корпаліся ля адной з такіх ям — у скураных бурдзюках выцягвалі наверх мокрую зямлю. Усе кішлачнікі, ад срэбрабародых аксакалаў да бачанят, талакой капаюць гэтыя тунелі. Вякамі перадаюцца ад бацькі да сына сакрэты кярызаў, уменне іх ладзіць. У невыносную спёку, дзе б ні быў чабан са сваім статкам, беспамылкова знойдзе месца, дзе халодны донны паток, схаваны ад сонца і пылу, бяжыць пад зямлёй, — напоіць сасмяглых авечак і вярблюдаў. Вада, сабраная па кроплях ад талых горных ільдоў, нячастых летніх дажджоў, па тунелях струменіць ад кішлака да кішлака, ад адной даліны да другой.

Ехалі па авечак. Там, недалёка ад кішлака Чар-Дары, на акружаных гарамі лапінах яшчэ іх пасвілі. Тыдні два таму яны наведваліся туды, без лішніх размоў з чабанамі ўкінулі ў машыну чатырох добрых авечак, няпозна вярнуліся назад. Мяса канчалася, а пераходзіць на абрыдлыя рыбныя кансервы не хацелася. Спадзяваліся натрапіць на гурт падалей ад людскога жытла, і тады “дэсантнікі”, як называлі на батарэі радавых Харша і Жука, зробяць сваю справу — укінуць у люк, колькі паспеюць, і зноў назад.

Нарэшце патрапілі на дарогу. Нехта праехаў тут нядаўна: сляды ад колаў праглядваліся на жоўтай чэзлай траве. З кіламетр Сімакоў трымаўся яе, наперадзе быў адкрыты прагал. Раптам дарога рэзка звярнула да недалёкіх гор, завіляла і згубілася за невысокай скалой. Фёдар углядаўся і не бачыў больш пратаптанай коламі сцяжыны, яму нічога не заставалася, як, аб'язджаючы валуны, ехаць уздоўж гары.

За плячыма, спусціўшы ногі долу, на лаўках ляжалі хлопцы. У мінулы раз пяці мінут хапіла, каб затарыць бэтээр. Дасць бог, і цяпер не горш абыдзецца.

Сімакоў убачыў гурт першым. Паляпаў рукой па халяве бота старшыны, пальцам паказаў у фортку. З-за гары выбягалі авечкі, ззаду напіралі астатнія, яны рассыпаліся па стэпе, адразу пабяліўшы яго. Людзей не было відаць, але па тым, як ішоў гурт, Фёдар адчуваў — яны тут, недалёка.

— Стой! — крыкнуў прапаршчык і пачаў паволі ўзводзіць аўтамат. — Давай паціху да іх.

Бэтээр развярнуўся. Паўскоквалі з нагрэтых лавак “дэсантнікі”, пачалі ўзірацца. Праз адчынены люк хлопцы чулі рэзкія крыкі, брэх сабакі. Далей не паедзеш — вымытая горнымі патокамі канава перагарадзіла шлях.

— Мы пойдзем, — падняўшы вуха шлемафона, крыкнуў Сімакову Хорш. — А ты давай за кулямёт. Хрэн яго ведае, што тут. Прыкрывай, — ён ямчэй засунуў у кішэню масхалата індпакет з пластмасавай ампулай пірамідону, палез у люк.

Першым саскочыў на зямлю старшына, за ім — салдаты. Сімакоў перабраўся за кулямёт, паглядзеў у трыплекс. “Дэсантнікі” паволі ішлі да гурта, выставіўшы ўперад аўтаматы, а два афганцы пастухі ў накінутых на плечы коўдрах нешта крычалі сабаку, стараліся не пусціць яго да “шураві”. Сімакоў не чуў, але ведаў напэўна, што казаў “духам” старшына, для ўпэўненасці, каб зразумелі, тыцкаў рукой у бок авечак. Пастухі махалі рукамі, нешта крычалі. Не даходзячы да чабаноў некалькі крокаў, Літвінаў наставіў на людзей аўтамат, а хлопцы кінуліся ў сярэдзіну статка. Да іх ірвануўся сабака, і старшына стрэліў. Сабака заскуголіў і крутануўся на месцы, у розныя бакі сыпанулі авечкі.

Нарэшце злавілі. За ногі волакам пацягнулі да бэтээра. Вось яны ўжо побач, Сімакоў чуе іх прыглушанае дыханне. Збоку плюхнулася на днішча авечка. Хлопцы пабеглі зноў. Літвінаў, не сыходзячы з месца, трымаў пад дулам аўтамата пастухоў.

Другім наваратам “дэсантнікі” прыцягнулі ажно дзвюх авечак. Кідаючы ў расчынены люк, крыкнулі Сімакову:

— Яшчэ рэйс — і харош. Глядзі, прыкрывай.

Раптам убачыў, як, быццам пераламаўшыся напалам, старшына асунуўся на зямлю. Пасля ўжо даляцелі стрэлы. Сімакоў адчуў, як умомант змакрэла кашуля. Дрыжачымі рукамі ўхапіўся за ручкі кулямёта, углядаўся ў трыплекс, стараўся вызначыць, адкуль стралялі. Пападалі на зямлю пастухі, пачалі адпаўзаць да камянёў, а хлопцы даставалі з-за спіны аўтаматы, сагнуўшыся, подбегам кінуліся да “брані”.

У шкельцы трыплекса добра праглядваліся бялеючыя на фоне шэрай гары пероны — даўгаполыя кашулі “духаў”. Прыткнуўшыся да гары, яны ляжалі за кулямётам, а крыху ніжэй яшчэ двое, сагнуўшыся, беглі па схіле.

Сімакоў страляў па гурце, па кулямёце, стараўся падмагчы хлопцам. Біў і біў, з кожнай новаю чаргой наліваўся злосцю. “Хутчэй, хутчэй...” Кулямёт змоўк. Пакуль прыладкоўваў новую стужку — не бачыў хлопцаў, паглядваў на люк. “Чаму няма?”

Глянуў у трыплекс: метраў за дваццаць ад бэтээра нерухома ляжаў Хорш. Зусім блізка ўбачыў твар Ваські Жука. Той стараўся падняцца з зямлі і не мог.

Сімакоў круціў вежу, да болю ў вачах углядаўся ў шкельцы, стараючыся хутчэй убачыць тых, хто страляў. Зноў Васіль. Голасу не чутно, але па губах бачна, як нема крычыць хлопец, завучы яго, Сімакова, не падмогу.

І тады ён рашыўся. Нацягнуў “ліфчык”, па брані споўз на зямлю. “Зараз, пачакай трошкі”, — шаптаў сасмяглымі вуснамі і баяўся гукнуць, каб не парушыць гэту кволую цішу, што раптам насунулася на іх. Чуў, як усхліпваў Васіль — плакаў...

Чарга з “дэшэка” хвастанула, калі ён амаль дапоўз да Жука. Уціснуў у зямлю галаву, стараўся далонямі прыкрыць яе. Секанула пяском — ланцужок куль смяротнай сцяжынкай прабег між хлопцамі. Ляжаць на аўтаматных дысках, якімі былі набіты кішэні “ліфчыкаў”, было няёмка, ён ссунуў іх набок. Але зрабілася горш — у рабрыны балюча ўпіралі гранаты.

— Васька, — Сімакоў бліжэй падсунуў да сябе аўтамат. — Я перапаўзу туды, — ён кіўнуў на валун, што ляжаў метраў за пяць наперадзе пад схілам. — Яны зверху не заўважаць. Кіну гранату — паўзі, колькі можаш, кацися.

Ён сагнуў левую нагу ў калене, рэзка адштурхнуўшыся, кінуў “эргэдэшку” і адразу, не марудзячы ні хвіліны, пакаціўся па схіле, прыхінаючы да грудзей аўтамат. Паспеў прыціснуцца да гарачай шурпатай паверхні каменнай глыбы. Глянуў на Васіля.

Той ляжаў ніцма, уткнуўся тварам у далоні рук. Раз-пораз кулямётныя чэргі імклівымі пясчанымі струменьчыкамі прабягалі зусім побач з Васілём, але не кранaлі яго: “духі” чакалі Сімакова.

Стараючыся, каб Васіль пачуў, ціхенька пагукаў:

— Жывы?

— Жывы, — не ўздымаючы галавы, адгукнуўся той.

— Паўзці ўніз можаш?

— Магу, — і адразу крутануўся да Сімакова.

Не паспеў дакаціцца. Кулямётны дождж пракінуўся паміж імі, і ўжо не змаўкаў посвіст куль, не пакідаючы спадзявання на лепшае.

Раптам Сімакоў убачыў, як схамянуўся Васіль і абмяк — чарга выслізганым пугаём лупанула па яго нагах.

Адклаўшы аўтамат, Сімакоў ямчэй паправіў “ліфчык”. Часу не было, і адзінае, дзе мог выйграць, — нечаканасць.

Адным рыўком скокнуў да Васіля, адразу ж уціснуўся ў гарачую пыльную траву побач. І ў гэты момант адчуў, як апякло бок.

Дрыжачымі рукамі паспрабаваў цягнуць сябра за сабой, да валуна, далей ад гэтага пекла. І не змог. Яркія чырвоныя кругі замільгацелі ў вачах, непасільным цяжарам наліваліся рукі. Зразумеў, што яшчэ трохі — і страціць прытомнасць. Але праз нечаканую абыякавасць мутна праступала: трэба вынесці. Выбіваючыся з апошніх сіл, сарваў з сябе папружку, змайстраваў пятлю, падцягнуўся да Васілёвай рукі.

Адной рукой ён цягнуў за мяккую скуру папружкі, а другой, вольнай, хапаўся за ссохлую калючую траву, стараючыся паўзці, што б там ні было.

Раптам грымнула, быццам пераламаўся папалам тоўсты сухі кій, разарваўшы ўшчэнт жаданую цішу. У тую ж хвіліну яго падкінула ўгору. Перад вачыма замітусіліся горы, бэтээр, авечкі...



Фота А. Шаблюка.




выйшла ў 1972 годзе ў Маскве "Историко-революционные памятники СССР" (калектыў аўтараў; мой матэрыял аб беларускіх помніках). Усяго ж выдаў больш за 40 кніг, альбомаў, манаграфій, каталогаў, друкаваўся, акрамя Мінска, найчасцей у Маскве, а яшчэ ў Кіеве і ў Вільні. Шмат напісаў і артыкулаў у газетах і часопісах. Агульнага падрахунку не вёў: можа, больш за 3 тысячы...

Самы "забойны" матэрыял быў, бадай, апублікаваны 6 студзеня 1984 года ў "ЛіМе" — артыкул "Крытэрый — сумленнасць" (нататкі з рэспубліканскай выстаўкі "Міншчына ардэнаносная"). Група мастакоў (5 чалавек) "пакрыўдзілася" на маю крытыку і накіравала скаргу ў ЦК КПБ. Там "развялі рукамі", але прапанавалі звярнуцца ў суд. Мастакі падалі на мяне і рэдакцыю газеты (рэдактар А. Жук) у народны суд Партызанскага раёна. Там, натуральна, таксама разгубіліся: такога выпадку не было! Але справу ўзялі ў вытворчасць... Праўда, перад самым працэсам гэтыя мастакі (не буду называць іх прозвішчы — двое з іх памерлі, а двое сталі маімі прыяцелямі) свой зыск забралі назад...

**— Крышачку аб сябрах...**

— У розныя перыяды жыцця сяброў (ці мне здавалася, што сяброў) было многа. Але — адны ўжо "далёка", іншыя — пайшлі ў іншы свет, з трэцімі — жыццё развяло па розных прычынах. Але так альбо інакш і зараз часта ўспамінаю тых, хто пакінуў "зарубку" ў маім жыцці.

Бадай, адзіным сябрам па "дарослым" жыцці і творчасці застаўся сёння Леанід Шчамялёў. У гэтым годзе будзе роўна 35 гадоў нашага сяброўства, якое практычна ніколі не прыпынялася.

Шкадую аб тым, што ўвесну 1961 г. не адбылася ў мяне сустрэча з І. Бродскім. Сяргей Даўлатаў (мой тагачасны прыяцель па універсітэце і, як цяпер кажуць, — па "тусоўцы", у тую пару яшчэ не пісьменнік) зваў мяне да Бродскага ў госці на Літаўку (былы дом, дзе жылі Меражкоўскі і Гіпіус), здаецца, на яго дзень нараджэння — у траўні, але чамусьці я не пайшоў. Зрэшты, тады Бродскі быў мала вядомы, хаця мы ўжо і распявалі яго "Пілігрымаў".

Сумую, што не пазнаёміўся з Ганнай Ахматавай, хоць такая магчымасць была (яна жыла тады пад Піцерам, у Камарове). Праўда, яе сын Леў Мікалаевіч Гумілёў быў маім педагогам у Ленінградскім дзяржаўным універсітэце. Шкада, што не паспеў "пратаптаць дарожку" да У. Высоцкага і Б. Акуджавы. Шкадую, што не паспеў увайсці ў творчы кантакт з У. Караткевічам...

**— Месца нараджэння. Вашы родныя — якую ролю яны адыгралі ў вашым жыцці?**

— Нарадзіўся я на хутары Падгорны, у 200 км ад Варонежа. Бацька, Аляксей Уласавіч Крэпак, загінуў на фронце ў 1943 г. (як я высветліў у Падольскім архіве). Я яго не памятаю. Калі я нарадзіўся 6 студзеня 1940 г. (бацька пасля інстытута служыў у войску), мама паведаміла яму, што дала мне імя Эдуард. Бацька не пагадзіўся з гэтым імем, папрасіў "пераназваць" мяне ў Барыса. Гэтае "перайменаванне" адбылося 10 красавіка ў сельсавеце: так і засталося ў пасведчанні аб нараджэнні — 10.IV.1940 г. Так што фармальна (і афіцыйна) адзначаю свой юбілей у красавіку, хаця фактычна я — Казярог. Мама пасля заканчэння ў Ерэване інстытута ў 1947 г. была накіравана ў Гародню, дзе працавала шмат гадоў. Меладзяць да яе, у Гародню, я і прыехаў у 1955 годзе. У гэтым горадзе я скончыў сярэднюю школу N 7: у 9-м класе працаваў у першым беларускім школьным джазе пад кіраўніцтвам Валодзі Арлова (ён — на год старэйшы за мяне), будучага кінарэжысёра, аўтара серыяла "Пракляты ўтульны дом".

Найбольшы ўплыў на станаўленне маіх поглядаў зрабіў мой дзед, Іван Уладзіміравіч Марозаў, у якога я выхоўваўся да 15 гадоў, гэта ён прывіў мне цікаўнасць да кніг і кіно (тады ў асноўным "трафейнага"). Дзед — данскі казак, вучыўся ў рэальным вучылішчы ў Варонежы, у гады грамадзянскай вайны браў удзел у белым руху, ваяваў у 3-й брыгадзе добраахвотніцкай арміі ў Драздоўскага, потым служыў у 4-м Данскім конным корпусе генерала Мамантава, пасля ў дывізіі імя Драздоўскага.

Напрыканцы 1920 г., калі рэшткі войскаў Урангеля эвакуіраваліся ў Турцыю, дзед застаўся ў Расіі, быў амніст́ыраваны. Пазней пайшоў працаваць на чыгунку, даслужыўся да машыніста пасажырскіх цягнікоў. З 1935 г. — на пенсіі, займаўся развядзеннем садавінных дрэў, гародніны, ведаў Мічурына, сустракаўся з Шолахавым, калі той прылятаў на У-2 з Вёшанскай за саджанцамі на наш славуты гадавальнік, дзе вырошчвалі новыя гатункі яблынь і абрыкосаў. Памёр дзед у 1984 годзе ва ўзросце 94 гадоў. Бабуля пражыла 70 гадоў, памерла ў 1975 г. Мама — на пенсіі, жыве ў Мінску. З блізкіх крэўных — сястра бацькі, гэта значыць мая цётка і яе дачка — жывуць на Украіне. Маю дачку Магду Крэпак ад першага шлюбу (яе маці памерла ў 1979 г.) і двух унукаў — Паўла і Андрэя. Магда — сябра Саюза журналістаў, жыве з мужам і дзецьмі ў Мінску. Магда — не толькі мая дачка, але і сябра, дарадчык.

Так, ледзь не забыў: вельмі шкадую, што не запісаў успамінаў свайго дзеда. Памятаю, у дзяцінстве на гарышчы нашага хутарскага дома знайшоў кніжкі П. Краснова "Картинки былого Тихого Дона" і "Атаман Платов", рукапісы Ф. Крукава і яшчэ нешта (выданні канца XIX — пачатку XX стагоддзя). І яшчэ — шаблю з надпісам "Ивану Морозову — за храбрость". Дзе гэтыя "рарытэты" зараз — невядома... Сядзіба пасля смерці дзеда была прададзена.

**— Беларусь. Якія асацыяцыі выклікае гэтае слова ў вас, што яна асабіста вам дала?**

— Беларусь. Белая Русь. Чысціня людскіх сэрцаў. Душэўнасць. Дабрыня. І ў той жа час калгасная "саўковасць", якая гвалтам укаранілася ў галовах. Для мяне Беларусь — Радзіма. Другая Радзіма. Яна для мяне дом, дабрабыт, любімая праца, словам, яна дала мне ўсё для творчасці. Дзе б я ні працаваў — Міністэрстве культуры (1965—1970), Саюзе мастакоў (1970—1994), газеце "Культура" (1994 — па сённяшні час) — усюды атрымліваў задавальненне. Менавіта тут шмат маіх праектаў было ўвасоблена ў жыццё. І яшчэ. Краіна мне дала шмат сапраўдных сяброў... Ды й што гаварыць, тут мая сям'я, верная і любімая жонка Людміла, дачка, унукі... Так што і быць пахаваным я хачу толькі ў гэтай зямлі...

**— Барыс Аляксеевіч, а хто побач з вамі заўсёдна?**

— Побач са мной — мая Людміла. Жонка, друг, анёл-ахоўнік Таленавітая журналістка. Разам напісалі кнігу аб яе родным дзядзьку Герої Савецкага Саюза Аляксандру Гараўцу "В поединках на высоте" (адзіны ў свеце лётчык, які збіў у адным баі 9 самалётаў на Курскай дузе). Кніга выйшла ў Мінску ў 1985 годзе. Яе бацька — Аляксей Сцяпанавіч Крушынскі, вядомы ў мінулым журналіст, галоўны рэдактар падпольнай газеты "Віцебскі рабочы", а пасля вайны першы галоўны рэдактар "Настаўніцкай газеты", аўтар кніг успамінаў пра К. Заслонава "Взрывы над Днепром". Яго жонка (мая цешча) — сястра А. Гараўца. Жывыя яшчэ тры сястры — у Віцебску, Мінску і Рызе. Дай Бог ім здароўя!

Без Людмілы я не дайшоў бы да дзён сённяшніх. Яна неаднойчы выратоўвала мяне ў сур'ёзных, часам драматычных сітуацыях.

**— Дзякуй, Барыс Аляксеевіч, за змястоўную гутарку.**

**Гутарыў Міхась МАЛІНОЎСКІ**

спяваць, потым папрасілі іншыя партытуры... Наша творчае знаёмства доўгі час было завочнае, а да паездкі ў Анкару мне давялося слухаць полацкі камерны пераважна ў запісе. І вось — цэлае суквецце жывых уражанняў! Віртуозныя ранішнія спеўкі, рэпетыцыі, натхнёныя выступленні.

Пагадзіцеся, нельга не захапіцца людзьмі, якія, не маючы ніякага матэрыяльнага стымулу, згуртаваліся ў сапраўдную сям'ю аднадумцаў, радуюцца адно аднаму, атрымліваюць асалоду ад спеваў. Пэўна, у гэтым заслуга лідэра. Людміла Жукава аб'ядНала вакол творчай ідэі зусім розных музыкантаў-педагогаў. І стварыла хор, які працуе на грамадскіх асновах, але на ўзроўні годнага прафесійнага майстэрства. Яна не дыктатар, а мудры кіраўнік, арганізатар. Жэстам яе боскіх рук ствараюцца дасканалыя гукавыя канструкцыі. Полацкі камерны — адзін з нямногіх калектываў на Беларусі, які пяе ў заходняй манеры: далікатна, графічна, дакладна.

Калі Жукава бярэ партытуру ў рэпертуар, яна не можа здавоціцца тым, што пазначана ў нотах. Яна — сатворца! Фрагменты маёй "Грыгарыянскай імшы", напісанай для мужчынскага хору, пераставрала для змяшанага складу галасоў. І зрабіла гэта настолькі пераканаўча, што я з цікавасцю чакаю працягу працы і спадзяюся, што Полацкі камерны хор выкане "Грыгарыянскую імшу" цалкам. Кантата "Зборная субота", напісаная мною на беларускія народныя тэксты, таксама набыла свежае гучанне. Леанід Маліноўскі, удзельнік хору, таленавіты аранжыроўшчык народных песень, па просьбе Людмілы Адамаўны "расфарбаваў" партытуру, увёўшы ўдарныя інструменты. Атрымалася не проста харавая кампазіцыя паводле абрадавага фальклору, а нейкае рытуальнае "дзейства", якое "на ўра" праходзіла ў перапоўненых залах Анкары.

І дарэчы: для гэтай вандроўкі хор падрыхтаваў партытуру пад назвай "Анкара" класіка сучаснай турэцкай музыкі, 75-гадовага прафесара, прэзідэнта харавога таварыства Музафера Аркана. Дык і сюды Жукава дадала "разыначку": распеўкі на "ляля-ля" расквеціла складам "тра!" І тая ж музыка загучала па-новаму. У знак павагі да гаспадароў "Анкара" ўключалася ва ўсе канцэртныя праграмы, а таксама выконвалася экспромтам — нават падчас сняданкаў ці вячэр: варта было камусьці з турэцкіх сяброў падысці да нашых столікаў...

**— Людміла Жукава — гэта імя і асоба ў нашай культуры. Нездарма ў той, ужо крыху падзабыты, час, калі славутая шырмаўская капэла засталася без мастацкага кіраўніка, прапаноўвалі на гэтую пасаду і яе. Праўда, пра яркую індывідуальнасць наваполацкага педагога-хормайстра ведаў тады хіба толькі маэстра Роўда, наогул для сталічнай "музычнай грамадскасці" Жукава была чужаніцай. Але цяпер яна мае афіцыйнае прызнанне як лепшы дырыжор 1-га Міжнароднага фестывалю "Магутны Божа", як уладальніца звання "Чалавек года" (1998) і спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Беларусі, як майстар, узнагароджаны Ганаровым знакам Міністэрства культуры, як педагог і як метадыст. А хор, якім яна кіруе, прыняты ў еўрапейскае харавое супольніцтва "Europa Cantat". І вось — ганаровы прыём у Турцыі...**

— Прыём быў на самым высокім узроўні і ў сэнсе побытавым, і ў літаральным. Беларускую дэлегацыю запрасілі ў Прэзідэнцкі палац. Прысутнічаў дыпламатычны корпус, у тым ліку і пасол Беларусі спадар Ляпешка. Быў анкарскі бамонд. Дый наогул — шмат цікавых гасцей, сярод якіх мы пазналі міністра культуры Азербайджана, папулярнага ў свой час эстраднага спевака Палада Бюль-Бюль-аглы. Людміла Жукава ўручыла гаспадару прыёму, Прэзідэнту Дэмірэлю, сувенір з Беларусі...

Вандроўка падаравала багата ўражанняў: што й казаць! Анкару я запомніў як горад новабудоўляў, з прыгожымі сучаснымі гмахамі, са шматлюддзем цэнтральных вуліц, з экзатычнымі, не кранутымі цывілізацыяй, старажытнымі кварталамі. Усходні каларыт гарадскому ландшафту надаюць шматлікія мінарэты. А незабыўнае наведванне цэнтральнай мячэці! Гэта незвычайны духоўны дом, пры ўваходзе ў які трэба пакідаць абутак. Там усё нібы атулена кілімамі. Пад столлю зіхацць гіганцкі шар, інкруставаны крышталём, падобны да касмічнага карабля. Уся прастора мячэці запоўнена мужчынамі, засяроджанымі на малітве. Чуваць характэрны спеў муэдзіна — дарэчы, гэты рэлігійны спеў-вокліч я чуў праз вакно гасцінічнага нумара штораніцы а 5-й гадзіне.

Я ўспамінаю падземныя буцікі са шкла і бетону, якія зусім не адпавядаюць кніжным уяўленням пра ўсходнія базары. Бадай, самае каларытнае ў іх — багатыя рыбныя прылаўкі ды крамы з размаітым зяленівам, садавінай, гароднінай. Як нам патлумачылі, у Турцыі аднachасова суседнічаюць чатыры часіны года, і таму ў крамах заўсёды свежыя дары і лета, і восені...

Добрае ўражанне зрабіла наведванне Опернага тэатра. На сцэне ішоў зусім еўрапейскі "Севільскі цырульнік", пастаўлены запрошанымі майстрамі. Выкананне — на мове арыгінала, а над сцэнай працаваў "суфлёр": бягучы радок з тэкстам патурэцку.

**— Аляксандр, ці можна казаць пра нейкі працяг творчых кантактаў з турэцкімі музыкантамі?**

— Я не люблю рабіць прагнозы. Але ў кожным разе прыемна, што адбылося наша знаёмства з кампазітарам Арканам, які паспеў паслухаць падараваны яму CD з маімі харавымі творамі і папрасіў выслаць ноты — для выканання турэцкімі калектывамі. Адбылася ў нас тэлефонная размова з флейтысткай Шэфікай Кутлуэр, якая шкадавала, што не змагла патрапіць на канцэрт. Яна неадназова прыязджала ў Мінск, ужо мае ноты маіх твораў. На жаль, ажыццяўленне міжнародных творчых праектаў для беларускіх музыкантаў звязана з фінансавымі праблемамі. Я ўпэўнены, што пасля трыумфальных выступленняў Полацкага камернага хору ў Турцыі дзверы ў гэтую краіну для яго будуць гасцінна расчыненыя, але...

**— Вядома, прымаць запрашэнне і выпраўляцца ў дарогу трэба не з пустой кішэняй. Пакуль жа нават камандзіроўка хору ў Мінск для студыйнага запісу — праблема. Але, як заўжды, застаецца надзея: на дзяржаву, на спонсараў, на заморскіх сяброў. Хтосьці й дапаможа?**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



*На здымку: падчас афіцыйнага прыёму (злева — пасол Беларусі ў Турцыі М. ЛЯПЕШКА, побач з ім — Л. ЖУКАВА, справа — міністр культуры Азербайджана П. БЮЛЬ-БЮЛЬ-АГЛЫ).*

Старасць не радасць, аднак усім хочацца дажыць.

Проста дзіўна. Ужо ў часы Ларашфуко былі песенькі-шлягеры, якія таксама хутка выходзілі з моды.

Шчасце складваецца не з таго, чаго ў нас няма, а з таго, што мы ёсць.

Пытаецеся, што параіць новаму рэдактару газеты? Хай не правакуе ў чытачоў нянавісці адзін да аднаго і не штурхае іх не любіць радзіму. І ён стане славутым.

У выхвалякі ўсе сны каляровыя.

Калі ў кампаніі простых людзей табе кажуць, што ты таленавіты — гэтага дастаткова, калі ж у кампаніі тваіх калег табе кажуць, што ты таленавіты, табе гэтага чамусьці замала.

Пытаеш, які народ **нікчэмны**? Дзе ў меншасці пустыя галовы, а ў большасці злыя душы.

Гаварыць штодзень пра Бога і Смерць яшчэ не прыкмета геніяльнасці. У адваротаешся ў гісторыі, адшукай хаця б аднаго вялікага, які нарадзіўся з табой у адзін дзень, і тым суцешышся.

Геній адрозніваецца ад простага смяротнага тым, што ў яго няма геніяльных запатрабаванняў і прэтэнзій.

Часцяком твары палітыкаў, якіх адхілілі ад улады, нагадваюць незавостраны алоўак ці сапсаваную запальнічку.

Упэўненасць у заўтрашнім дні мае толькі страўнік.

У веры ідэі няма. У яе ёсць адны правілы паводзін для душы і цела.

Атэіст гэта не той, хто не верыць у Бога, а той, хто намагаецца паставіць сябе на яго месца.

Кажуць, шлях да пазнання доўгі і цяжкі. Па-мойму, ён бясконцы. Ніхто не паспявае за жыццё пазнаць самога сябе да канца.

Для аднаго чалавека набытак — шчасце,

Калі адчай трапляе ў душу і ахоплівае яе, глыбей усведамляеш недасканаласць чалавечай натуры.

Калі шчасця трэба дабівацца — гэта ўжо не шчасце. Шчасце прыходзіць натуральна і непрыкметна, часцяком нечакана, але заўсёды заслужана за турботы шчырыя і справы духоўныя.

Вопыт пакаленняў нічому не вучыць, словы сведак — бяссільныя. Кожны мае прайсці свой шлях цаной страт і набыткаў.

Гэтак жа, як супрацоўнік спецслужбаў ніколі не скажа, што ён супрацоўнік спецслужбаў, так і мудры чалавек ніколі не скажа, што ён мудры.

Кніга — гэта журба па ўсім тым, што пражыта і надзея на памяншэнне гэтай журбы ў будучым.

Усё, што бачыць вока, — матэрыяльнае. Можна крануць рукой. Але вось феномен. Ясна і выразна бачу, а памацаць рукамі не магу. Гэта цень.

Калі табе давяраюць, пазычаць (дадуць пазыку).

У жыццё прыходзім выпадкова, сыходзім заканамерна.

Калі нараджаецца чалавек, нішто ў свеце не памірае ўзамен.

Той, хто думае пра годны канец жыцця, жыве сумленна.

На надмагільным помніку маці я напісаў: "Мама, не было дня, каб я не ўзгадваў цябе".

Ад усяго людскага ў некаторых асоб толькі тое і засталося, што зрэнкі рэагуюць на святло.

Найлепшы сведка Праўды — Мана.

Ці здужае народ стаць асобай? Вось у чым пытанне.

Пытаеш, чаму дабро несмяротнае? А што яшчэ можа выжыць у любым грамадстве, апроч яго?

— Бог, мне сумна.
І Бог даў чалавеку тэлебачанне.
— Бог, мне сумна.
І Бог даў чалавеку камп'ютэр.
— Бог, мне сумна.
І Бог даў чалавеку сотавы тэлефон.
Чалавек пераадрасаваў просьбу.
— Мне ўсё роўна сумна, Д'ябал.
І Д'ябал прымусіў чалавека за ўсё, што даў Бог, плаціць грошы. Больш просьбаў не было. На іх не хапае часу.

Калі памёр нават вельмі славуты чалавек у вялікім горадзе, не паведамляй пра яго смерць у дзень усенародных святаў і гулян-

Георгій МАРЧУК

# Голас і слова

## З КНІГІ АФАРЫЗМАЎ

ным выпадку наш народ на адных толькі святарах перавыканаў бы план пастаўкі чалавецтву геніяў на тысячу гадоў наперад.

Крывадушнік не ведае страху, у яго заўсёды спалох — абы толькі не перарвалі. Крывадушнікаў жа не караюць смерцю.

Пытаеш, якая прыкмета амаральнасці і здзеку? На экране тэлевізара паказваюць сцэну пакарання смерцю Хрыста, а ўнізе бяжыць радок: "... бяз болю робім вакуумаборты. Даведкі па тэлефоне..."

Даўгавечнасць кахання залежыць ад доўгацярплівасці жанчыны і ад ступені мужчынскай ляноты.

Грэх пісаць у дзённіках пра людзей, якія памерлі. Яны не могуць сябе абараніць.

Дзённік пісьменніка — гэта не разважанні, не філасофстваванне, не лірычныя запісы. Гэта заўсёды апраўданне ўласнай слабасці ў гэтым свеце.

Калі ты выпіў з крывадушнікам на брудэршафт, ты таксама крывадушнік.

У большасці выпадкаў нам заўсёды спакайней і весялей, калі гаворыць пра недахопы і няўдачы нашых знаёмых, а не наадварот.

Не судзі чалавека, калі не жывеш адным з ім жыццём.

Пытаеш, якую я спавядаю філасофскую ідэю? Калі адкажу: песімізм — знаёмае. Калі скажу: аптымізм — старое. Адкажу: песімістычны аптымізм.

Калі сур'ёзна да ўсяго ставіцца, звар'яцееш ад мноства невытлумачальных з'яў.

Пытаеш, як праславіцца? Дапамагай асвеце народа, умацоўвай яго нацыянальную самасвядомасць, вучы любіць і шанаваць сваё, і ён адкрые цябе для сябе і праславіць.

Чым вышэйшы ўзровень культуры таго ці іншага народа, тым больш таленавітых людзей з гэтага народа ведаюць у свеце.

Мне яшчэ не траплялісь бацькі, якія б пажадалі сваёй долі дзецям.

На старасці год чалавек не гатовы спажываць здабыткі юначай мары, што нечакана здзейснілася.

Ёсць рэчы, што на працягу тысячагоддзяў абавязкова прысутнічаюць у спісе спадчыны. Гэта "дом", "гадзіннік", "посуд", "свойскія жывёлы". Слава адвечным спадарожнікам чалавека.

Вось знаёмы выраз: "Жыццё кароткае, мастацтва — адвечнае". Суха. Паспрабуем перапісаць: "Жыццё кароткае — радзіма адвечная". Зрабілася цяплей на душы, відавочна цяплей.

Калі змовяцца несумленныя і зайздросныя людзі, дык можна на вельмі доўгія гады замоўчаць вялікі талент.

Калі бачыш, што нічым значным не зас-



для другога — страта — шчасце. Усё залежыць ад таго, хто набывае і што страчвае.

Сэнс жыцця — паспець усяго паспытаць пры жыцці і пры гэтым шчасліва пазбегнуць турмы, торбы, бальніцы і кулі.

Мозг — унікальны млын. Ён усё змеле.

Розніца паміж дабром і злом. Дабро мы можам ацаніць самі, а зло часцей за ўсё ацэньваюць на нашым горкім вопыце другія.

Небяспечна жыць у краіне, дзе рэйтынг кандыдата ў прэзідэнты зніжаецца ў сувязі з павелічэннем цаны на гарэлку.

Я ведаў старых пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў, што гарэлі лютай нянавісцю да сваіх сяброў юнацтва.

Зло — гэта перш за ўсё нелюбоў, нежаданне дараваць і няўменне спачуваць.

Пакуль існуюць грошы, ніколі не стаўся да іх з пагардай.

Наш славянскі менталітэт такі, што зло новай улады пачынаецца з помсты папярэдняй.

Татальная стомленасць, гэта калі на самога сябе цяжка глядзець.

Пытаеш: ці заўсёды галеча непазбежная? Да таго часу, пакуль багацце абавязковае.

Кантактуеш з людзьмі. Адразу сотні праблем, якія патрабуюць ад цябе вырашэння. Стамляе ўсё гэта да злосці. Спакой прыйдзе тады, калі зразумееш, што і ты сам прыносіш сотні праблем іншым.

Пытаеш, якая розніца паміж хітрым і разумным? Хітры на адзін раз. Разумны — назаўсёды.

Пяць хвілін. Праходзіш іх у ахвоту і хутка. У чаканні ж яны пакутлівыя і марудныя.

Хто згубіў цікавасць да прафесіі, ідзе ў палітыку.

З узростам больш недалюбліваюць людзей, чым іх любяць.

Беларуса ў часы змен спыталі, што лепш: не бачыць ці не чуць? Ён адказаў: "Лепш уначы не чуць, а ўдзень — не бачыць".

Шчаслівы той, хто ажаніўся, яшчэ шчаслівейшы той, хто марыць пра шлюб.

Цэмент і моцны, і выклікае давер, але без слабога і мяккага пяску не абыходзіцца.

Для старога пісьменніка ўсе маладыя пішуць не так і не пра тое.

Калі ваш муж у сне прамаўляе імя другой жанчыны — не засмучайцеся, другія вымаўляюць па два-тры імені.

няў. Апроч этыкі, усе могуць падумаць, што ты рады гэтай смерці.

Надрукуй у золаце вокладку і нават самая пустая кніга будзе мець значны і грунтоўны выгляд. Золата паўсюдна золата.

Пытаешся, чаму не забыты Сенэка? Хіба ж можна забыцца на яго мудрыя словы: "Ідэальнае жыццё — жыццё згодна з законамі прыроды, падмурак шчасця — дабрачыннасць".

Кесары, мытары, фараоны, цэзары, прынцы, князі, цары, баяры, паны, мяшчане, стацкія саветнікі, сакратары абкомаў — усё сышло, не сыходзяць адно багатыя і бедныя.

Ні з пункту гледжання маралі, закона, палягчэння хваробы, ні з якога другога пункту гледжання смерць не выглядае хораша.

Вялікая колькасць людзей памрэ і ніколі не пакаштуе французскага шампанскага і ананасаў. Але не меншая колькасць людзей памрэ і ніколі не пакаштуе беларускай самагонкі з салам.

Дурань дурнем, але нават ён не кажа пра свае заганы.

І апошняе: афарызмаў трэба пісаць у меру. Напішаш мала — не застанучца ў памяці, напішаш многа — стомяцца чытаць. І яшчэ трэба быць сціплым: і акрамя ж цябе ёсць аўтары!

таксама баючыся, каб яна нас не пачула.

— Што ж рабіць? — апалым голасам прамовіў Мішка. Нечакана дадаў: — Выйдзем і крыкнем, што нельга глуміць калгаснае жыта!..

— А мы з табой?

Мы змоўклі. Ведалі, што ў Дуні трое дзяцей, што яе Змітрака прыдушыла ў шахтах, і яны цяпер не маюць чаго есці.

— Будзем маўчаць, — рашаем мы з Мішкам.

Нам ужо расхацелася цягнуцца за маяк, на закусцелую лугавіну. Счакалі, пакуль Дуня выбралася з жытнога на дарогу, наскублі па жменьцы каласкоў і пайшлі дадому. Пражмо спяклі на агні, калі ўранку палілася печ.

Не на жарт мы перахваляваліся, калі назаўтра ўсё Забалоцце скаланула трывожная вестка. Дуню, аказваецца, вартаўнік перастрэў, калі яна загуменнем прабіралася дамоў. З сельсавета прыехаў міліцыянер, і Дуню арыштавалі. З тым вузельчыкам-кайстрачкай яе пасадзілі ў кузаў новай палутаркі, якую толькі што займеў наш калгас "Чырвоны колас", і адправілі ў раён. Калі шафёр, даўгалыгі Антось Аўсянік пасабляў Дуні, апранутай не па-летняму ў парыжэлую плюшаўку, з бахіламі на босыя ногі, забрацца ў кузаў, ад яе ніяк не маглі адпіхнуць яе малых дзяўчынак і большага Васіля, нашага равесніка. Малыя лямантавалі, а Дуня чамусьці іх не супакойвала, толькі няўцямна пазірала шырока расплюшчанымі вачмі.

Міліцыянер закрычаў на Антося, і той паспяшаўся ў кабіну. Пасігналіў, каб людзі, што стаялі моўчкі, разышліся, і машына рушыла, абдаўшы ўсіх даўкім пылам...

*30.08.1983 г.*

## Чорнае на зялёным і чырвоным

Вясна 1986 года была шчодрая на святло і колеры. Пад канец красавіка ў горадзе выкінулі свае зялёныя з сіне-чырвонымі крапінкамі парашуцікі кучаравыя каштаны, квола і даверліва заіскрыліся зелянінай выносістыя таполі, а ліпы яшчэ не спяшаліся — грэлі сваё галлё на ўгрэве...

На падаконніку майго шырокага вакна ўвачавідкі выцягнулася і дурманіла галаву чадным пахам расада памідораў, прасілася хутчэй у грады.

Блізка чакаўся Першамай. На вуліцах і плошчах запанавала зялёнае з чырвоным — сцягі, лозунгі, плакаты. Увечары ўспыхнулі букеты рознакалярowых лямпачак...

Раніцой 27-га красавіка я выйшаў з дому і здзівіўся. Дажджу, здаецца, не было, а на вуліцы асфальт мокры і блішчыць, як люстра. Падумалася: як жа дарэчы прайшоў дождждык — вясна ж!..

Аказалася: уначы дажджу не было. Гэта пад раніцу, на дасвецці, пашчыравалі машыны-палівачкі. Ад сустрэчнага незнаёмага чалавека пачуў: "На Чарнобыльскай АЭС, што за трыццаць кіламетраў ад Брагіншчыны, здарылася аварыя. Узарваўся адзін з чатырох блокаў...".

Днём пазваніў малады калега-літаратар: "Бацька, ты ж там з медыкамі працуеш, то, можа, ведаеш, як ад радыяцыі ратавацца..."

У той жа, першы дзень, як здарылася бяда, медыкі (я кажу пра тых, з якімі я працаваў) толкам самі нічога не ведалі, спакойна займаліся будзённымі справамі. А, можа, хто з іх і ведаў нешта, але маўчаў. Мы ж вучыліся гэтаму доўга і цярпліва і па лініі маўчання маглі добра спаборнічаць. Уменне трымаць язык за зубамі лічылася адметнай рысай кожнага, хто быў на службе...

Як заўсёды, горад рыхтаваўся да Першамая і да гадавіны вялікай Перамогі. А чуткі аб тым, што здарылася ў Чарнобылі, усё з большай хуткасцю намотваліся ў клубок і насіліся ў паветры. Чуткі былі самыя розныя і неверагодныя. Адны перапытвалі, што гэта бяда — не бяда: зусім нязначнае павышэнне так званага радыяцыйнага фону; другія перадавалі, як па сакрэце, — радыяцыя павысілася ў сем разоў...

Мне выпала ў тыя дні, а дакладней першага і другога мая, быць у вёсцы. Мы шчыравалі на сядзібе сваякоў, і ў ахвоту папрацавалі на пасадцы бульбы. Усталявалася цудоўнае сонечнае надвор'е. Майскае сонца смаліла па-летняму. І ўсе мы забыліся пра радыяцыю, пра якую ўжо ў горадзе трубілі, як кажуць, ва ўсе трубы.

Па радыё слухалі, як у Мінску праходзіла першамайская дэманстрацыя.

Святкавалі і дзень Перамогі. Святкавалі ўрачыста. Музыка. Сцягі. Ля абеліска Перамогі — мора кветак. На грудзях ветэранаў золата ўзнагарод. Але над усім, як злавесны прывід, павісла чорная жычка — "падарунак" Чарнобыля...

*29.04.1987 г.*

# Каб помнілі

## (МЕМАРЫЯЛЬНЫ СПІС ПАМЁРШЫХ І ЗАГІНУЎШЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ)

За дзесяць з паловай год маёй працы ў Саюзе пісьменнікаў на пасадзе дырэктара Літфонда часта даводзілася, на жаль, займацца і сумнымі клопатамі, праводзіць, так бы мовіць, у апошні шлях больш за пяцьдзесят пісьменнікаў.

Кожнае развітанне — гэта вялікае гора, трагедыя родных і блізкіх, боль і смутак сяброў.

Каля труны, каля магілы, у жалобным застоллі чуліся прасякнутыя смуткам словы: "Мы вечна будзем помніць...", "Вы на ўсё жыццё застанецеся ў нашых сэрцах...", "Пакуль будзем жыць, будзем помніць..." І на дзяржаўным, і на сяброўскім узроўнях даваліся гэтыя клятвы, абяцанні аб дапамозе родным памерлага, часам нават такія, якія перабольшвалі магчымасці тых, хто іх даваў, хаця іншы яны, вядома, ад шчырага сэрца, ад жадання дапамагчы блізкім, зменшыць боль страты. Ведаю мноства прыкладаў, калі гэтыя абяцанні былі не толькі на словах, але выяўляліся і ў канкрэтных справах. На жаль было і другое: калі гэтае памяці хапала ўсяго толькі на дзевяць ці на сорак дзён, альбо на гадавіну з дня смерці... А потым у віхуры жыццёвых клопатаў гэтыя клятвы адыходзілі на нейкі далёкі план, а то і зусім забываліся.

Мяне заўсёды турбавала думка: чаму так здараецца? Чаму мы гэтак хутка забываемся пра сваіх сяброў, пра тых, хто стварыў мастацкі летапіс Бацькаўшчыны, хто сваёй літаратурнай творчасцю ўвекавечвай яе людзей? Ці ведаем мы, дзе іх магілы, а калі ведаем, дык ці часта на Радаўніцу, ці на Дзяды, ці ў які іншы дзень прыходзім туды пакласці кветкі ці хоць проста пастаяць, успомніць добрым словам?

Вось, скажам, так званыя Вайсковыя могілкі ў Мінску, дзе пахаваны класікі беларускай літаратуры Янка Купала і Якуб Колас, а таксама яшчэ адзінаццаць літаратараў, і сярод іх Кузьма Чорны, Паўлюк Трус, Эдуард Самуйлёнак, Алесь Гурло, Валянцін Таўлай і інш.

На Усходніх могілках (цяпер іх называюць Маскоўскімі) пахаваны больш чым сорак літаратараў. Нямала пісьменнікаў пахавана на Паўночных і Чыжоўскіх могілках.

Ці да ўсіх іх наведваюцца сябры ў дзень нараджэння або смерці? У якім стане іх магілы?

Яскравым прыкладам забыцця на дзяржаўным узроўні з'яўляецца магіла памерлага ў 1995 годзе (пайшоў шосты год!) народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі. Дагэтуль так і не пастаўлены абяцаны дзяржаўны помнік.

За гэтыя гады шмат разоў прыходзіў я сюды і штораз пакідаў магілу Пімена Емяльянавіча з болем і горыччу. У сэрца так і стукалі словы: ганьба, ганьба! Адольвалі думкі, думкі... Да якога беспамяцтва мы дайшлі! Хацелася крыкнуць: людзі! што з намі здарылася?

Што вылучае чалавека з астатніх жывых істот свету? Памяць і мова. Калі канкрэтны чалавек губляе памяць і мову, ён перастае быць чалавекам. А што адбываецца, калі памяць і мову трацiць уся нацыя?

Усё гэта падштурхнула мяне скласці своеасаблівы мемарыяльны спіс памерлых і загінуўшых пісьменнікаў з пазначэннем: калі і дзе нарадзіўся? Калі памёр? Дзе пахаваны?

Лічу гэта сваім маральным абавязкам, тым больш, што мая задума атрымала актыўную падтрымку і дапамогу з боку кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў і Беллітфонда, за што я ім вельмі ўдзячны.

Прызнаюся, што, узяўшыся за гэтую справу, я не ўяўляў, наколькі складана атрымаць адказ на апошняе пытанне: дзе пахаваны? Лягчэй было атрымаць адказ на яго адносна літаратараў, якія памерлі за апошнія дваццаць пяць — трыццаць гадоў і пахаваны ў Мінску. Але шмат хто з іх памёр і пахаваны ў іншых гарадах або ў сваіх родных вёсках, на Радзіме, а то і далёка ад яе. Няма дакладных звестак і наконт памерлых яшчэ раней — 35—50 гадоў таму. Асабліва балючае пытанне — аб месцы пахавання рэпрэсіраваных і загінуўшых у гады вайны пісьменнікаў. У мемарыяльным спісе яны і будуць пазначаны пытальнікамі.



У сувязі з гэтым я буду вельмі ўдзячны тым, хто прачытаўшы гэтыя радкі падкажа мне тое-сёе, дапаможа знайсці пытальнікі, а то і падкажа памылкі, якія, відаць, непазбежныя.

**Васіль ВІЛЬТОЎСКІ**

**Аляксандр АВЕЧКІН**
Аляксандр Аляксеевіч Авечкін, рускі дзіцячы пісьменнік.
Нарадзіўся 22 чэрвеня 1913 года ў горадзе Чудава Наўгародскай вобласці (Расія).
Памёр 7 лістапада 1980 года ў Смаленскай вобласці.
Пахаваны ў Брэсце (?).

**Уладзімір АГІЕВІЧ**
Уладзімір Іванавіч Агіевіч, беларускі паэт, літаратурны крытык, перакладчык.
Нарадзіўся 26 верасня 1910 года ў вёсцы Пухавічы Жыткавіцкага раёна.
Памёр 2 кастрычніка 1952 года.
Пахаваны ў Мінску на вайсковых могілках.

**Алесь АДАМОВІЧ**
Алесь (Аляксандр Міхайлавіч) Адамовіч, беларускі пісьменнік, літаратуразнаўца і літаратурны крытык.
Нарадзіўся 3 верасня 1927 года ў вёсцы Канюхі Капыльскага раёна.
Памёр 26 студзеня 1994 года.
Пахаваны ў вёсцы Глуша Бабруйскага раёна.

**Веніямін БЛАЖЭННЫ (АЙЗЕНШТАДТ)**
Веніямін Міхайлавіч Айзенштадт, паэт.
Нарадзіўся 15 кастрычніка 1921 года.
Памёр 3 жніўня 1999 года.
Пахаваны на Маскоўскіх могілках у Мінску.

**Зэлік АКСЕЛЬРОД**
Зэлік Майсеевіч Аксельрод, яўрэйскі паэт і перакладчык (пісаў на ідыш).
Нарадзіўся 30 снежня 1904 года ў Маладзечне.
Расстраляны 26 чэрвеня 1941 года.
Пахаваны (?).

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ**
Андрэй Іванавіч Александровіч, беларускі паэт.
Нарадзіўся 22 студзеня 1906 года ў Мінску.
Памёр 6 студзеня 1963 года ў Падмаскоўі.
Пахаваны ў Мінску на Маскоўскіх могілках.

**Сцяпан АЛЕКСАНДРОВІЧ**
Сцяпан Хусейнавіч Александровіч, беларускі літаратуразнавец і літаратурны крытык, пісьменнік.
Нарадзіўся 15 снежня 1921 года ў Капылі.
Памёр 1 мая 1986 года.
Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках.

**Антон АЛЕШКА**
Антон Антонавіч Алешка, беларускі пісьменнік.
Нарадзіўся 1 лютага 1913 года ў вёсцы Балотчыцы Слуцкага раёна.
Памёр 13 верасня 1971 года.
Пахаваны ў Мінску на Чыжоўскіх могілках.

**Мікалай АЛЯКСЕЕЎ**
Мікалай Іванавіч Аляксееў, рускі пісьменнік.
Нарадзіўся 17 снежня 1898 года ў Пецярбургу.
Памёр 12 жніўня 1985 года.
Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках.

**Мікола АЛЯХНОВІЧ**
Мікола (Мікалай Мікалаевіч) Аляхновіч, беларускі літаратурны крытык і літаратуразнавец.
Нарадзіўся 21 красавіка 1903 года ў Барысаве Мінскай вобласці.
Памёр 9 красавіка 1959 года.
Пахаваны (?).

**Францішак АЛЯХНОВІЧ**
Фланцішак Каролевіч Аляхновіч, нарадзіўся 9 сакавіка 1883 года ў Вільні.
Беларускі драматург, празаік, паэт, публіцыст.
Забіты невядомымі на кватэры ў Вільні 3 сакавіка 1944 года.
Пахаваны (?).

**М. АРОЛ**
М. Арол (Сцяпан Язэпавіч Пяцельскі) нарадзіўся каля 1890 года ў мястэчку Гарадок Беластоцкага павета Гродзенскай губерні (цяпер Польшча). Беларускі паэт і публіцыст.
Памёр у канцы 1917 ці ў пачатку 1918 года.
Пахаваны (?).

**Наталля АРСЕННЕВА**
Наталля Аляксееўна Арсеннева, беларуская паэтэса і перакладчыца.
Нарадзілася 20 верасня 1903 года ў Баку (Азейрбайджан). З 1950 года жыла ў ЗША.
Памерла ў 1997 годзе ў ЗША.
Пахавана (?).

**Алесь АСІПЕНКА**
Алесь (Аляксандр Харытонавіч) Асіпенка, беларускі пісьменнік і кінадраматург.
Нарадзіўся 7 верасня 1919 года ў вёсцы Пушкары пад Віцебскам.
Памёр 6 жніўня 1994 года.
Пахаваны ў Мінску на Чыжоўскіх могілках.

**Алесь АСТАПЕНКА**
Алесь (Аляксандр Кірылавіч) Астапенка, беларускі паэт і перакладчык.
Нарадзіўся 14 ліпеня 1920 года ў вёсцы Сырская Буда Кармянскага раёна.
Памёр 20 ліпеня 1970 года.
Пахаваны ў Мінску на Маскоўскіх могілках.

**Змітрок АСТАПЕНКА**
Змітрок (Зміцер Емяльянавіч) Астапенка, беларускі паэт, празаік і перакладчык.
Нарадзіўся 10 лістапада 1910 года ў вёсцы Калеснікі Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні (цяпер Хіславіцкі раён Смаленскай вобласці, Расія).
Загінуў 7 кастрычніка 1944 года ў Карпатах.
Пахаваны (?).

**Анатоль АСТРЭЙКА**
Анатоль (Акім Пятровіч) Астрэйка, беларускі паэт і перакладчык.
Нарадзіўся 24 ліпеня 1911 года ў вёсцы Пясочнае Капыльскага раёна.
Памёр 23 жніўня 1978 года.
Пахаваны ў Мінску на Маскоўскіх могілках.

**Сяргей АСТРЭЙКА**
Сяргей Адамавіч Астрэйка, беларускі паэт.
Нарадзіўся 9 ліпеня 1912 года ў вёсцы Каласоўшчына Капыльскага раёна.
Расстраляны 14 верасня 1937 года.
Пахаваны (?).

**Адам БАБАРЭКА**
Адам Антонавіч Бабарэка, беларускі пісьменнік і літаратуразнавец.
Нарадзіўся 14 кастрычніка 1899 года ў вёсцы Слабада-Кучынка Капыльскага раёна.
Памёр 19 кастрычніка 1938 года ў лагернай бальніцы.
Пахаваны (?).

**Максім БАГДАНОВІЧ**
Максім Адамавіч Багдановіч, беларускі паэт, перакладчык, літаратурны крытык.
Нарадзіўся 9 снежня 1891 года ў Мінску.
Памёр 25 мая 1917 года.
Пахаваны ў Ялце.

**Міхась БАГУН**
Міхась БАГУН (Міхаіл Фёдаравіч Блошкін) нарадзіўся 8 лістапада 1908 года ў Мінску.
Беларускі паэт і перакладчык.
Памёр 17 лютага 1938 года (па сведчанні відавочцаў — у снежні 1937).
Пахаваны (?).

**Юрый БАГУШЭВІЧ**
Юрый (Герогій Канстанцінавіч) Багушэвіч, беларускі і рускі пісьменнік.
Нарадзіўся 5 мая 1917 года ў Оршы.
Памёр 18 сакавіка 1983 года.
Пахаваны на Паўночных могілках у Мінску.

**Зінаіда БАНДАРЫНА**
Зінаіда Аляксандраўна Бандарына, паэт, празаік.
Нарадзілася 19 кастрычніка 1909 года ў Гродне.
Памерла 16 красавіка 1959 года.
Пахавана ў Мінску на Масоўскіх могілках.

**Сымон БАРАНАВЫХ**
Сымон Баранавых (Сымон Якаўлевіч Баранаў), беларускі пісьменнік.
Нарадзіўся 1 верасня 1900 года ў вёсцы Рудкова Уздзенскага раёна.
Памёр 10 лістапада 1942 года ў ГУЛАГу.
Пахаваны (?).

*(Працяг будзе)*

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Уладзіміру МЕХАВУ (НЯХАМКІНУ) з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці жонкі.**

**Калектыў настаўнікаў і вучняў Рэспубліканскага каледжа мастацтваў выказвае глыбокае спачуванне дырэктару каледжа ШАХАВАЙ Людміле Мікалаеўне з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці бацькі.**

ПЕРАКЛАДЫ

# У сэрцы да апошніх дзён...

**Самым маладым удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны падбіраецца пад восемдзесят. Час няўмольны — з кожным днём іх застаецца менш і менш.**

**Помніць тых, хто загінуў, шанаваць не паказушна-казённа тых, хто яшчэ побач з намі! Слова "яшчэ" мае ўласцівасць часовасці, зніknення. Пра гэта трэба не забываць.**

**Па ваенных дарогах Беларусі прайшлі больш за 120 пісьменнікаў усіх рэспублік былога Савецкага Саюза. Трынаццаць з іх навечна засталіся ў нашай зямлі. Сярод іх і грузінскі паэт Мірза Гелавані, верш якога ўключаны ў гэтую падборку. Ён загінуў 19 ліпеня 1944 года ў разгар аперацыі "Баграціён". Імя паэта прысвоена Ржаўскай сярэдняй школе Бешанковіцкага раёна.**

**Вершы, якія прапаную ў сваім перакладзе, напісалі паэты — прадстаўнікі розных народаў. У іх радках — дыханне грознага часу. Аўтары іх так ці інакш звязаны з нашай Беларуссю.**

**Уладзімір ПАЎЛАЎ**

## Ібрагім КЭБІРЛІ
**(Азербайджан)**

### *Стары акоп*

*Над Церакам цясніны.*
*Дзень за днём,*
*За крокам крок, сярод*
*шчарбатых скал,*
*Прыгнуты, як разведчык*
*пад агнём,*
*Цябе вачыма хочымі шукаў.*

*І па-салдацку пацвярдзеў*
*мой крок,*
*І рукі я для прывітання ўзняў,*
*Калі, травой парослага, здалёк*
*Прыкмеціў я цябе і распазнаў.*

*Зямлю разгроб. А золаку крыло*
*Усё болей залівала барвіна.*
*Тады ж для перакрыцця*
*не было*
*Ні жэрдачкі нідзе, ні бервяна.*

*Скапычаны*
*на брустверы свінцом,*
*Аглохлы пад гарматны градабой,*
*Ты на світанку мог бы*
*стаць канцом*
*Мае дарогі простай, хоць крутой.*

*Мае ўспаміны стуль*
*вяртаюць жах...*
*Дык хай жа не палохаюць сабой*
*На лузе травы, каласы ў палях*
*І воблакі пад самай сінявой.*

*Ці помніш ты, як у баі святым,*
*Калі гуляла прагна*
*смерць паўсюль,*
*Мне падстаўляў*
*пад локці бруствер ты,*
*Як родны дом, аберагаў ад куль?!*

*Утравянеюць дзірваном гады,*
*І станеш ты нікому не відзён.*
*Мінецца час, а ты ў мяне і тады*
*У сэрцы будзеш да апошніх дзён.*

## Мірза ГЕЛАВАНІ
**(Грузія)**

●

*Я так хацеў паслухаць "іаўнану"[1],*
*Хоць тое, што не згіне ўсё адно*
*Ад вострага нажа*
*і ад падману, —*
*Забіта адзінотаю даўно.*

*Які ж я горды быў, які упарты...*
*Ой, як жа я пакрыўдзіўся тады...*
*Хоць цяжкаю*
*была калісьці страта,*
*З табой мы разышліся, хто куды.*

*Але не сцверджу словамі пустымі,*
*Што мы не разам,*
*хоць я ў бітве паў,*
*Каб і пасля, як сірата ў пустыні,*
*Па белым свеце*
*цень мой не блукаў.*

[1]Іаўнана — калыханка.

## Ліві ДЭЛЯНУ
**(Малдавія)**

### *Песня, напісаная на прыкладзе*

*Цяпер, калі бярэ верх злое*
*На старажытных родных гонях,*
*Табе клянуся шчыра, зброя,*
*Што з рук не выпушчу сягоння.*

*Спакой зававлівы адкіну,*
*Які вядзе ў тупік панурлы.*
*Я разздзялю з табой часіну,*
*Пражытую ў агні і буры.*

*Перад нахмуранаю даллю*
*Цябе к пляччу прыцісну цвёрда,*
*Каб ты, нацэленая ўдала,*
*Па варварскіх страляла ордах.*

*Я цвёрдасць дам табе ад цела,*
*Жыцця краплiну дам ад сэрца,*
*Каб ты была жывой і смелай,*
*Калі сустрэнемся са смерцю.*

*Не намі першымі, не намі*
*Дасланыя патроны ў рулі.*
*З імпэтам выплявяць нянавісць*
*Пасланыя прыцэльна кулі.*

*Хай вораг кулям знае рату*
*І хто за што яго карае.*
*Адна — за спаленую хату,*
*За маці мёртвую — другая.*

*І кожны раз, як вораг хіжы*
*Старчма ўпадзе ў зямлю сырую,*
*Цябе да губ сваіх набліжу*
*І па-братэрску пацалую.*

*Ісці так будзем, пабратаны*
*Сырой траншэяй, болем, хлебам,*
*Да старажытнае паляны*
*Пад выпітым вясёлкай небам.*

*Твой рот хусцінкай выцірацьму,*
*Ахоўваючы край свой існы.*
*А паміраючы, як маці,*
*Цябе я да грудзей прысцісну.*

## Косць ГЕРАСІМЕНКА
**(Украіна)**

### *Песня*

*Нас атакі ўначы чакалі,*
*І, залёгшы ў траву, мы адну,*
*Я не знаю чаму,*
*заспявалі*
*Песню даўнюю не пра вайну.*

*Ятрань родны ў той песні віўся,*
*Рэчка ў ёй між імжы плыла.*
*Заглядзеўся хлапец, засмуціўся,*
*Бо журба ў таго хлопца была.*

*Слова ціхае, спеў радзімы*
*Засланілі сабой дымы —*
*Праз агонь і ваду прайшлі мы,*
*Смерці ў вочы глядзелі мы.*

*У разрывах трава густая,*
*Дзе лілася чужая кроў.*
*Потым песня прыснілася тая*
*І яе мы спявалі зноў.*

*Я прайшоў не адну дарогу —*
*Дождж і спёка, і снег сцяной.*
*І, як вера ў перамогу, —*
*Ходзіць песня са мной у бой.*

*Кроч жа ў вызваленыя сёлы,*
*Часам гнеўная, ды свая,*
*І лагодная, і вясёлая,*
*І суцешлівая — мая.*

*А калі я ўпаду ад раны,*
*На паніччаных мной паглядзі*
*І на полі, сярод туману,*
*На іржышчы мяне знайдзі.*

*Не вядзі мяне да крыніцы,*
*Толькі весела зазвіні,*
*Толькі словам простым,*
*сястрыца,*
*Словам родным мяне ахіні.*

*Раскажы, як той Ятрань уецца*
*Дзесь на Кіеўшчыне маёй, —*
*Птушкай сэрца маё заб'ецца,*
*Зноў устану, пайду на бой.*

*Зноў устану, дарогай грымотнаю*
*Панясу свой крылаты сцяг.*
*Слова роднае, песня родная,*
*Акрыляй нас заўжды ў баях.*

## Пятро ГАРЭЦКІ
**(Украіна)**

### *Памяць*

*Глыбокай ноччу дрэмле цішыня,*
*Але й цяпер*
*з артылерыйскім громам*
*У сны мае ўрываецца вясна,*
*Вясна, калі на землях невядомых*
*Нарэшце задыхнулася вайна.*
*Спыніўся шал свінцовых*
*завірух.*
*На Шпрэе змоўклі*
*стомлена гарматы.*
*Дамоўкі заўсміхаліся салдатам*
*І маці, што счакаліся па хатах,*
*Пражыўшы пекла*
*самы страшны круг.*
*Мы ад Берліна ўзялі ключы.*
*Нялёгкаю была да іх дарога.*
*Ды час прабіў —*
*На ўвесь свет Перамогу*
*Апавясцілі нашы сурмачы.*

## Барыслаў СЦЕПАНЮК
**(Украіна)**

### *Удовіна баразна*

*Снарадамі адбухала навала,*
*Не абышла ніводнага сяла...*
*Жывы ці нежывы —*
*яшчэ не знала,*
*А ўжо кароўку ў плуга запрагла.*

*Як родныя, з суседкай запрагліся*
*(Як пабрацімы недзе — мужыкі):*
*Гэй, Лыска, гэй, Рабая!*
*Сталь скрыгіча,*
*У цвердзь зямную*
*ўткнуўшыся-такі.*

*О войны! Пакалечаныя лёсы,*
*Каторая апошняя з вас, дзе?..*
*Раллю сухую акрапляюць слёзы,*
*На ураджай не трацячы надзей.*

*Асірацелі баразна з сявенькай*
*(Загінуў муж*
*на фронце — чалавек).*
*І аўдавела замаладу ненька,*
*Цяпер цягнуць ёй плуга цэлы век.*

*На ўсё жыццё бяда загартавала!..*
*Усёмагутнай стала, як вясна:*
*З зямлёй равы і шанцы*
*зараўняла, —*
*Удовіна радзі зноў баразна.*

### *Сярод поля салдат*

*Балада*

*А салдат сярод поля з магілы*
*Уставаў што ёсць сілы,*
*Не звяртаючы ўвагі на рану*
*І на саван туману.*

*Тут, бароняй, падалі вoi*
*Аж з пары векавое,*
*Каб у песні ўваскрэснуць, у дзеі,*
*У слязіне на веі.*

*Колькі лет, колькі зім,*
*Колькі вёсен*
*Па-за ўдаўскім плёсам*
*Праляцела і снегам і цветам*
*Над шырокім над светам.*

*Быццам птаства*
*далёка ўзнялося,*
*Прашумела калоссе...*
*Хутка зноў*
*патрывожаць камбайны*
*Гэты край ураджайны.*

*Ён і сам вунь падняўся*
*двухкрылы,*
*Прыпарушаны пылам.*
*А у бронзу бяссмерце ўлілося,*
*Нібы зерне ў калоссе.*



# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

Як вядома, у Санкт-Пецярбургу праходзіць чэмпіянат свету па хакеі. Але я не пра гульню нашай зборнай, а пра ўражанні ад таго, як ладзіць рэпартажы адтуль роднае БТ. Дакладней, сюды прыходзіць ужо гатовая "карцінка", зробленая аператарамі, на шчасце, не бэтэшнымі. Таму, калі паказваюць трыбуны, можна бачыць проста процьму бел-чырвона-белых сцягоў. А вось Уладзімір Навіцкі, які звычайна вядзе рэпартажы па-беларуску, цяпер каментуе чамусьці па-расейску. Відаць у гасцях у "старэйшага брата" язык каментатара паварочваецца выключна інтэграцыйна. Хоць разпораз, па звычцы, прабіваюцца ў эфір нашыя "потым" і "ўжо"...

**РАМПА**

**Купалаўскі тэатр**

*5—8 траўня* — "Князь Вітаўт"
*11 і 20* — "Сон у чарадзейную ноч"
*12* — "Смак яблыка"
*13* — "Таполевая завея"
*14* — "Парфен і Аляксандра"
*15 і 17* — "Вандроўнікі ў Нью-Йорку"
*18* — "Лес"
*19* — "Ромул Вялікі"
*21* — "Паўлінка"
*28* — "Касцюмер"
*29* — "Вечны Фама"
*31* — "Піраміда Хеопса"

**Малая сцэна Купалаўскага**

*6* — "Дагарэла свечачка"
*10, 11 і 21* — "Восеньская саната"
*17* — "Тут жывуць людзі"
*31* — "Разбітае сэрца"

**ТЮГ**

*10 і 17* — "Ніхто не паверыць"
*11* — "Дзень нараджэння ката Леапольда"
*12* — "Кот у ботах"
*13 і 19* — прэм'ера "Палёт у краіну мрояў"
*16* — "Парася, якое спявае"
*18* — "Шчаслівыя жабракі"
*20 і 21* — "Палачанка"

**Тэатр "Зніч" (Чырвоны касцёл)**

*11* — "Нобіль — барвяны ўладар" паводле "Сівой легенды" У. Караткевіча.
*12* — "Віленскія мроі"
*15, 22 і 29* — "Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага"
*15* — "Рахманая" паводле Ф. Дастаеўскага
*19* — "Белы сон" паводле вершаў Геніюш, Арлова, Караткевіча, Ластоўскага і Разанава
*22* — "Не праклінай, што я люблю..." паводле рамана ў вершах Н. Гілевіча "Родныя дзеці"

**"Вольная сцэна"**

*5* — "Паваліўся нехта"
*23* — "Узлёт Артура Уі" (увечары) і "Дзіця з Батлеема" (раніцай)
*24 і 25* — Стомлены д'ябал"
*26* — "Чорны квадрат"
*30* — "Містэр Розыгрыш"
*31* — "Барбара Радзівіл"

**ГАСТРОЛІ**

Да 15-годдзя заснавання калектыву і 300-годдзя першай прафесійнай трупы ў Віцебску тамтэйшы тэатр "Лялька" з 22 па 27 траўня дае спектаклі ў памяшканні Купалаўскага:

*22 і 27* — "Ладдзя роспачы" паводле У. Караткевіча
*24* — "Загубленая душа, або Пакаранне грэшніка" па Я. Баршчэўскаму

**Запрашаем!**

*5 мая а 14-й гадзіне* ў Палацы мастацтваў па вуліцы Казлова, 3 адбудзецца прэзентацыя літаратурна-мастацкіх выданняў у рамках правядзення 4-й міжнароднай выставы "Прэса Беларусі".

*19 мая а 17-й* гадзіне ў актавай зале Універсітэта культуры (вул. Рабкораўская, 17) адбудзецца вечарына, прысвечаная 70-годдзю Алеся Петрашкевіча.

Наступны нумар тыднёвіка "Літаратура і Мастацтва" выйдзе 19 мая 2000 года.


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалт[illegible]ія — 284-8462





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк 4.05.2000 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 2289

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12